ПАДПІСКА »БОЖЫМ ШЛЯХАМ« НА 1979 г:.

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — £ 1-00.
У іншых краінах у суме раўнаважнай £ 1-00.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.
Mr. B. Danilovich, 303 Hovard Str., New Brunswik, New Jersey, USA.
Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str., Los Angeles, Calif., USA.
Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl., New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave., Toronto, Ont. 560, Canada.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. F. Žurnia, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N12 8HY.,
Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N 12, азначае North, а не нумар.


ON GOD'S HIGHWAY

**Year XXVI** **№ 150**
**1979**

*MARIAN HOUSE, HOLDEN AVENUE,*
*LONDON N12 8HY.,*
*GREAT BRITAIN.*

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ГОД XXVI | 1979 | № 150

# ПРЫМІЦЕ ВЯЛІКУЮ ПРАЎДУ

Першы раз у гісторыі Каталіцкай Царквы паляк быў выбраны Папам і выбраны ў нязвычайным часе. Сама Царква пасьля ІІ-га Ватыканскага Сабору імкнецца не адставаць ад сучаснага жыцьця, а наадварот разам з энэргіяй, якую дае тэхніка і навука, прышчапіць яму жыцьцё ласкі, надпрыродную энэргію. Каб хрысьціянства лунала веліччу сваей праўды, каб усіх абдзяляла жыватворчай сілай, трэба ўжываць усіх сьродкаў. Сярод іх ключавым ёсьць мова чалавека. Мова — гэта дар Божы, гэта ключ да людзкіх сэрцаў!

Таму Папа, Галава Каталіцкай Царквы, атрымаўшы ключы ад вечных праўдаў ад самога Хрыста (Мат. 16, 19), ужывае розных моваў. Цяжка аднак было вымагаць ад Папаў італьянцаў, хаця і былі сярод іх выдатныя і здольныя адзінкі, каб яны апрача »міжнародных« моваў ведалі славянскія мовы. Урэшце Божы Провід даў Папу славяніна. Ён сяньня біскуп Рыму, Пастыр Усяленнай, але ён па свайму паходжаньню, па свайму выглядзе, тэмпэраманту паляк. Што аднак ён ня толькі паляк, але славянін, можна бачыць хоць-бы й з таго, што сярод 23 моваў, у якіх у дзень калядні 25 сьнежня 1978 году вітаў Горад і Сьвет, ён прамаўляў у шасьці славянскіх мовах, а сярод іх і ў беларускай.

Прыміце вялікую праўду пра Чалавека! — казаў Ян Павал II.

А гэтай Праўдай ёсьць сам Ісус Хрыстос.

»ДАРАГІЯ БЕЛАРУСЫ! ВЯСЁЛЫХ І РАДАСНЫХ КАЛЯДНЫХ СЬВЯТАЎ!«

Мы ўдзячныя Айцу Сьвятому, які ў гэтак урачысты дзень памятаў і пра наш беларускі народ. Так — гэта першы раз у гісторыі Царквы, у гісторыі нашай мовы! З належнай пашанай да асобы Папы і ўдзячнасьцю мы выкажым наша перакананьне: наш народ і наша мова на гэта заслужылі.




# *L'Osservatore Romano,*

## 27 - 28 Dicembre, 1978 No 298 (35. 981)

*A quanti ci ascoltano*

Di espressione francese:

*Heureux Noël, dans la joie et la paix du Christ!*

Di espressione inglese:

*A blessed Christmas, in the joy and peace of Christ!*

Di espressione tedesca:

*Frohe und friedvolle Weihnacheten in Christus.*

Di espressione spagnola:

*Felices Navidades en la paz y gozo de Cristo!*

Di espressione portoghese:

*Feliz Natal, com os melhores votos da paz e da alegria de Cristo!*

Di espressione neerlandese:

*Gezegend Kerstfeest aan allen in vrede en vreugde.*

Di espressione albanese:

*Per shum mot 'Krishtlindja.*

Di espressione araba:

*Milâdan Mubârakan.*

Di espressione armena:

*Sznorawór surp dzynúnt.*

Di espressione croata:

*Sretan Božić i na dobro vam doslo porodjenje Isusovo!*

Di espressione bulgara:

*Czestito Rozdestwó Christówo.*

Di espressione ceca:

*Pozehnané vánoce a radost z narozeni Spasitele sveta.*

Di espressione slovacca:

*Radostné a pozehnané sviatky Bozieho Narodenia.*

Di espressione ungherese:

*Boldog karácsonyt. (az Udvözitö Jézus áldását) a szeretett magyar népn.*

Di espressione romena:

*Urez iubitilor credinciosi români, Sărbători Fericite!*

Di espressione bielorussa:

*Darahíja Bielarúsy! Viasiolych i rádasnych Kalàdnych świátaû!*

Di espressione russa:

*Srożdżestwóm Chrystówym.*

Di espressione lituana:

*Brólians Lietùviams Linkiù Kalédu Paláimos Krìstuje.*

Di espressione ucraina:

*Wesélych Swiat z Ryzdwóm Chrystówen - Chrystoś Narodylsja.*

Di espressione giapponese:

*Christmas Omedeto!*

Di espressione cines

*Gun ho Scen Dan.*

Di espressione etiop

*Nquan Löbürhane Aderesaciuh.*

Di espressione polac

*Umiłowani Bracia i Rodacy w Kraju i p granicami gdziekolwie ście: Papież - Polak jest i oznajmia Wam rad winę, że "Słowo cia stało i zamieszkało mi mi"!*

*Życzę Wam i całej C radosnych i błogosła Świąt Bożego Narodz*

*Przeżywajmy T Wcielenia jako jedna Boża. Niech nie będzi nas ludzi samotnych nych, zapomnianych, zonych, powaśnionych*

*Modlę się z Wami kolędy:*

*" Podnieść rękę Boże błogosław Ojczyznę w dobrych radach brym bycie wspieraj jej siłę su*

Per tutti:

*Christus natus est n nite adoremus!*

---

**ДА ЧЫТАЧОЎ**

У запрошлым годзе, нажаль, наш часапіс ня выйшаў зусім. Шмат на гэта злажылася прычын, а сярод іх не былі апошнімі сьмерць і зьвязаныя з ей турботы дарагіх нам святароў, для якіх шмат месца пасьвячаем у гэтым 150-ым нумары. Можна было-б назваць яго юбілейным. Двох рэдактараў, »Божым Шляхам« ужо спачываюць у магіле, а й трэці немаладзенькі!.. Але мы будзем старацца прадоўжываць адказную працу і прынамсі выдаць часапіс два разы ў год. Просім не забывацца пра нас і прысылаць падпіскі і ахвяры.

---

*Біскуп Ч. СІПОВІЧ*

# ТРЫ ПАПЫ

Якое здарэньне ў 1978 годзе найбольш усхвалявала сьвет? Хіба ўсе згодзяцца, калі мы адкажам: сьмерць і выбары Папаў. У кароткім одступе часу двох іх памёрла: Павал VI і Ян Павал I; таксама два былі выбраныя: Ян Павал I і Ян Павал II і то выбраныя насуперак прадбачваньням і здагадкам розных экспэртаў і журналістаў.

Сьмерць і выбары Папаў нядаўныя здарэньні, якіх мы былі сьведкамі, але яны ўжо перайшлі ў гісторыю. Сучасныя камунікацыйныя сьродкі удаступнілі мільёнам людзей або быць прысутнымі ў Рыме або абсэрваваць тыя падзеі здалёк праз тэлевізары. Тут мы затрымаемся на асобах Папаў, якія адыйшлі ў вечнасьць і пастараемся пазнаёміцца з новым, якому провід Божы вызначыў быць першым і найвышэйшым Пастырам Каталіцкай Царквы.

## Павал VI (1897-1978)

Ян Хрысьціцель Монтіні — пазьней ён-жа Папа Павал VI — радзіўся ў вёсцы Кончэссіё непадалёк гораду Брэшыя дня 26 верасьня 1897 г. Ягоны бацька, Юры Монтіні, быў па прафэсіі праўнікам і журналістам. Ягоная маці Юдыта з дому Альгізі была жанчынай руплівай і рэлігійнай. Бацькі будучага Папы належалі да сярэдняга класа італійскага жыхарства і былі грамадзка выробленымі і дзейнымі.



**Апошняе спатканьне Біскупа Ч. Сіповіча з Паўлам VI дня 19. X. 1977, калі праходзіў V-ты Зьезд Беларускіх Каталіцкіх Сьвятароў.**

Хлапец Янка Монтіні быў кволага здароўя, таму наважыўшы астацца сьвятаром, ня мог жыць у сэмінарыі ў Брэшыя, а прыгатаўляўся як экстэрніст. 20 траўня 1920 г. быў высьвячаны на сьвятара. Пасьля пасылаюць яго на далейшыя студыі ў Рым, дзе і скончыў багаслоўскі курс у Папскім Уні-

вэрсытэце Грэгорыянум, а дыплямацыю і замежныя мовы ў Папскай Царкоўнай Акадэміі.

У 1923 г. малады сьвятар Монтіні як атташэ знаходзіцца пры Апостальскай Нунцыятуры ў Варшаве. Тады ён між іншым спаткаўся з Магілёўскім Мітрапалітам Роппам, аб чым сам успамінаў на аўдыенцыі удзеленай пішучаму гэтыя радкі. У Польшчы аднак прышлося яму аставацца нядоўга. Вярнуўшыся ў Рым працуе ў сакратар'яце стану, а таксама выпаўняе абавязкі капэляна і царкоўнага кіраўніка сярод студэнтаў Італійскай Каталіцкай Фэдэрацыі (1925-1933). Калі Кардынал Пачэльлі быў сакратаром стану, а пазьней Папам, Монтіні працаваў як ягоны падуладны, таксама ў цяжкія часы другой сусьветнай вайны; усяго разам праз 24 гады.

У 1954 г. Ян Хрысьціцель Монтіні атрымаў біскупскія сьвячэньні і быў назначаны Мілянскім архіепіскупам, а ў сьнежні 1958 г. Папа Ян XXIII надзяліў яго годнасьцю кардынала. Па сьмерці Яна XXIII яго наступнікам на пасад Апостала Пятра быў выбраны у 1963 г. Мілянскі кардынал і прыняў імя Паўлы VI.

Без сумніву лепш прыгатаванага чалавека на рымскі пасад ад кардынала Монтіні цяжка знайсьці. Супрацоўніцтва праз доўгія гады з такімі выдатнымі людзьмі як кардыналы Гаспарры, Маглiонэ, Пачэльлі было нагодай пазнаць тэарэтычна і практычна царкоўныя і сьветавога маштабу справы.

На плечы Паўла VI лягло такое заданьне як заканчэньне II-га Ватыканскага Сабору, а яшчэ важнейшае і цяжэчшае — правядзеньне ў жыцьцё ягоных пастановаў.

Літургічныя і юрыдычныя зьмены ў лацінскай Царкве, увядзеньне жывых моваў, новых малітваў і абрадаў так моцна скалыхнула дагэтуль здысцыплінаваную Царкву, што не адзін з вернікаў, а нават і з пасярод герархаў, пачалі стаўляць пытаньне: ці не задалёка мы пайшлі?! Некаторыя датарнаваньні Царквы да жыцьця — кліч Яна XXIII і апошняга Сабору — »зразумелі« гэтак, быццам Царква можа абыйсьціся без »цяжкіх« догмаў, без тайнаў, пастоў, без ніякага аўторытэту ў навучаньні й кіраваньні; без ахвяры й крыжа . . . Знайшліся такія традыцыяналісты, як Лефэбр, для якога Царква, гэта скасьцянелы нейкі музэй, дзе пераховываюцца даўнія вопраткі і абрады. А ўсё, што новае, а пры тым і ўвесь Ватыканскі Сабор, гэта праступства і гэрезія. З такімі і ім падобнымі Папа Павал цярпліва, з любоўю, але не пагаджаўся. Тое самае можна было-б сказаць і пра шкодных для Божай справы прагрэсістаў.

Павал VI абараняючы сутныя прынцыпы хрысьціянства быў адначасова найбольш мадэрным з дасюлешніх Папаў.

Ягоныя паездкі ў Істамбул, Ерузаліму, Афрыку, Індыю, ў Злучаныя Штаты Амэрыкі (Аб'еднаныя Нацыі); ягоны экумэнізм абапёрты на Хрыстовай праўдзе і на Хрыстовым запавеце, каб усе былі адно; ягоныя натугі і малітвы, каб захаваць супакой у сьвеце; наканец ягоная пакора і гэраічная любоў бліжняга — ставяць яго ў рады найвыдатнейшых Папаў.

Павал VI быў прыхільнікам г. зв. дэтанту з камуністычнымі дзяржавамі. Гэта ён рабіў сьведама, каб аблягчыць паложаньне Царквы паза зялезнай заслонай, каб утрымаць там каталіцкую герархію. Гісторыя пазьней скажа сваё слова, ці й тут Павал VI асягнуў жаданую мэту — дабро Хрыстовай Царквы. У добрай аднак яго волі сумніву быць ня можа.

Астаецца пытаньне: а што зрабіў Павал VI для нас беларусаў?

Ён добра ведаў якое паложаньне Царквы ў нашай бацькаўшчыне, а таксама й тое, што робіцца на чужыне. Ён выклікаў у Рым сьвятара беларуса, прыняў яго паайцоўску, багаславіў на далейшую працу. Ён жадаў назначыць для Беларусі біскупа беларуса, якійбы мог свабодна працаваць і арганізаваць царкоўнае рэлігійнае жыцьцё. Не дазволілі аднак на гэта тыя сьвецкія ўлады, якім залежыць перадусім, каб на Беларусі надалей трываў рэлігійны балаган і каб пашыралася бязбожжа.

Павал VI таксама цікавіўся беларускай эміграцыяй. Ён надалей жадаў, каб існавалі беларускія ватыканскія радыяперадачы; ён дапамог пралату П. Татарыновічу матэрыяльна у выдаваньні ягоных беларускіх друкаў і часапісу »Зьніч«.

Папа Павал VI вітаў як бацька Зьезды Беларускіх Каталіцкіх Сьвятароў. Незабыўныя ягоныя словы высказаныя да нас беларусаў у прысутнасьці тысячы пільгрымаў іншых нацыянальнасьцяў:

*»Гэтыя аўдыенцыя ёсьць хвілінай спатканьня, хвілінай еднасьці і духовай супольнасьці.*

*Першых тут вітаем групу Сьвятароў Беларусі — ужо само названьне іх тут нас усхвалёўвывае* — (на залі доўгія апладысменты) — *якія аднак не знаходзяцца ў сваей уласнай краіне, але праводзяць душпастырскую працу ва ўсім сьвеце сярод эміграцыі, выгнаньнікі са сваей Бацькаўшчыны.*

*Ваша Бацькаўшчына ёсьць у нашым сэрцы. НА ПРАЦЯГУ ГЭТАГА ТЫДНЯ МЫ ГУТАРЫЛІ ПРА ЕЙНЫ ЛЁС, ПРА ВАШ КРАЙ І РОБІМ УСЁ МАГЧЫМАЕ, КАБ ДАПАМАГЧЫ, КАБ ПАДТРЫМАЦЬ ТОЕ, ШТО*

*ДАГЭТУЛЬ АСТАЛОСЯ Ў ВАШАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ ВЕРНАГА, КАТАЛІЦКАГА, ДОБРАГА.*

*Данясеце да яе жыхараў, каб ведалі, што молімся за іх і што злучаныя з імі, ды нятолькі з імі, але з усімі расцярушанымі ў сьвеце, якіх аб'яднывае імя Беларусі«.*

Вось аўтэнтычныя словы да беларусаў Папы Паўла VI, высказаныя публічна дня 19 кастрычніка 1977 г., гэта значыць некалькі месяцаў перад сваей сьмерцю.

За часаў Папы Паўла VI праблемы й патрэбы Беларускай Царквы разглядаліся так у Ватыкане, як і ў Крэмлю. Спадзяёмся, што пры цяперашнім Папе Яне Паўле II-ім яны будуць памысна для беларусаў закончаныя.

Павал VI памёр 6 жніўня 1978 г. у сваей летняй віллі Кастэль Гандольфо. Пасьля трох дзён ягонае цела было перавезена ў Ватыкан. Па дарозе дамавіна з целам Папы была ўнесена ў Лятэранскую базыліку — маючыю тытул маці цэркваў — дзе тамтэйшае духавенства адправіла мольбы за душу памёршага. Ад 9-12 жніўня яно знаходзілася ў базыліцы сьв. Пятра, а шматлікія вернікі пераходзілі ля яго з ціхай малітвай на вуснах і нярэдка са сьлязьмі ў вачох, бо-ж памёр айцец хрысьціян. 12 жніўня адбыўся пахарон на плошчы сьв. Пятра скромны урачысты. Труна ляжала на дыване, які пакрываў каменьні. Гэтак была ўшанавана воля сьвятога Айца.



**Два Папы: Лючыяні — Ян Павал I і Вайтыла — Ян Павал II. Сьмерць хутка зьмяніла паложаньне.**

**Ян Павал I. (26. VIII — 28. IX — 1978)**

25 жніўня 1978 г. распачалася конклявэ. 111 кардыналаў увайшлі ў ватыканскія пакоі й замкнуліся ад сьвету. Аб выбары Папы меў закамунікаваць старавечным манерам комін сыкстынскай капліцы, выпускаючы белы дым, як той стары дзед пыхкаючы люльку. На той белы дым прышлося чакаць нядоўга, бо ўжо вечарам наступнага дня памысна быў выбраны Папа. А галасы кардынальскай Калегіі згодна выбралі кардынала Альбіна Лючыяні, патрыярха Вэнэцыі. Радасную вестку падаў на ўвесь сьвет кардынал Пэрыкль Фэлічы, якога звонкі голас добра памятуем з часу апошняга Сабору, якога ён быў генэральным сакратаром.

Габэмус Папам!

І так распачаліся адна за другой неспадзеўкі. Дагэтуль мала ведамы кардынал Лючыяні, а выбраны вельмі хутка! Далей — імя Папы! Першы раз у гісторыі двайное. Як сам выбраны пасьля выясьніў выбраўшы імёны Яна і Паўла ён жадаў ісьці сьледам абодвых праслаўтых Папаў: Яна XXIII, каторы таксама быў патрыярхам Вэнэцыі, і Паўла VI.

Найвялікшым аднак сюрпрызам для цэлага сьвету была нячаканая сьмерць Яна Паўла I, якая як той пярун з яснага неба закончыла ягоны 33-дзённы пантыфікат 28 верасьня 1978 г. каля гадзіны 11 вечарам. Папскі капэлян а. Ян Магі не дачакаўшыся Папы ў капліцы раніцай у звыклым яму часе, асьмеліўся заглянуць у спальню. Над ложкам гарэла електрычная лямпа, у руках кніга »Сьледам за Хрыстом«, а Папа ляжаў заснуўшы на векі! Прыклікаены доктар сьцьвердзіў сьмерць з прычыны вострага інфарту сэрца.

Папа Ян Павал I аказаўся той яркай зоркай на небасхіле, якую паміма яе кароткай зьявы, усе заўважылі. Быў ён просты поўны ўнутранай радасьці Пастыр. Радзіўся ён у беднай сям'і ў мястэчку паўночнай Італіі Канале д'Агордо. Бацька Альбіна быў сацыяліст. Часта яго не бывала дома, бо выяжджаў на заработачную працу ў суседнюю Швайца-

рыю або ў Нямеччыну. Не перашкаджаў аднак сыну пайсьці ў сэмінарыю. І так Альбін Лючыяні здабываў асьвету ў Фэльтрэ, у сэмінарыі ў Бэльлюно і наканец на тым самым рымскім унівэрсытэце, што і ягоны папярэднік Монтіні, Грэгорыянум. Вярнуўшыся ў сваю дыяцэзію быў душпастырам, прафэсарам у сэмінарыі. Апрацаваў катахізм, які дачакаўся аж шэсьць выданьняў. У 1958 г. Папа Ян XXIII высьвяціў яго на біскупа. Павал VI перавёў у Вэнэцыю.

Пры ўсіх сваіх занятках кардынал патрыярха Лючыяні знаходзіў час пісаць артыкулы ці расказы ў італьянскія рэлігійныя часапісы. Між іншым ён астаўся ведамым з лістоў пісаных да розных гістарычных асоб, як Марак Твэйн, Дыкэнс, Чэстэртон, а нават Ісус Хрыстос. Гэтыя лісты пасьля былі надрукаваныя ў кніжцы »Ільлюстрыссімі« або »Слаўныя«.

За кароткі час Папа пакінуў у спадчыне некалькі прыгожых прамоваў, пару назначэньняў у рымскай курыі і . . . незабыўны ўсьмех.

Адзін з казнадзеяў у час Літургіі за супакой душы Папы Яна Паўла I ў Рыме сказаў: »Гэтага Папу, з якога ўсе каталікі былі гордыя, якога так хутка прыняў і палюбіў увесь сьвет, ці-ж мы не падглядалі звонку на працягу 33 дзён, з цікавасьцю чакаючы, што ён будзе рабіць? А ці-ж ня трэба было нам далучыцца да яго ўнутранна, каб прынамсі часткова дапамагчы яму несьці той цяжар праблемаў і трывогаў перш чымся яны яго скрышылі? А тым цяжарам была Царква, якой ён меў кіраваць. Ад хвіліны свайго выбару яна толькі адзіная сталася прадметам ягоных дум, ягонай любві і ягонага жыцьця. Ён жыў, ён існаваў толькі для яе. . . . Ён памёр адзінокі. Ці-ж можа быць сумніў, што ён аддаў сваё жыцьцё за Царкву, як той добры пастыр з Евангельля«. (L'Osservatore Romano, 12. X. 78).

### Ян Павал II.

Раптоўная сьмерць Папы Яна Паўла I была моцным устросам для ўсіх, а ў першую чаргу для Каталіцкай Царквы. Як самаход без матору, або дзяржава без ураду, так Царква без Галавы ёсьць моцна спаралізаванай. Годзе сказаць, што ў час сэдэ вакантэ ўсе папскія ватыканскія дыкастэрыі ня могуць нічога важнейшага пастанаўляць ці рашаць. Таксама ніхто ня можа назначаць новых біскупаў або забіраць голас у сусьветнай вагі справах ад імя Апостальскага Пасаду. Зрэшты й матэрыяльныя выдаткі ў сувязі з паховінамі й выбарамі Папы ёсьць значныя. Калі яно здараецца, так як гэтым разам, што на працягу двох месяцаў памёрла аж двох Папаў, устрос адчуўся нятолькі на ўзгорках Ватыкану. Тымбольш завастрылася людзкая цікавасьць: а хто-ж будзе наступны?

Журналісты не ўгадаўшы, што Альбін Лючыяні будзе выбраны Папам, гэтым разам былі асьцеражнейшымі. Але адзываліся галасы за выдатнейшымі кардыналамі італійцамі, а англа-моўная прэса ўспаміналa імя лёнданскага ўвэстмінстэрскага архіепіскапа кардынала Васіля Гюма. Бачна, што гэтым разам і выбарчая калегія кардыналаў ня хутка дайшла да згоды, каб 2/3 плюс адзін голас укінуць у чашу на таго самага кандыдата. Белы дым з коміна сыкстынскай капліцы паказаўся толькі пасьля восьмага галасаваньня.

Але-ж! Ані прысутныя на плошчы сьв. Пятра, ані тыя, што сачылі радыя і тэлевізію, не маглі паверыць сваім вачам і вушам, калі пачулі ізноў голас кардынала Фэлічы, які абʼяўляў, што маемо Папу, а ім ёсьць Кароль Вайтыла, архіепіскап мітрапаліт кракаўскі!

На працягу ўсей 2000-ай гісторыі Царквы 264-ы наступнік Апостола Пятра быў выбраны першы славянін, першы паляк! Пачуцьцё радасьці, як той прыбой вагромністай марской хвалі, што залівае бераг і ўсе прыбярэжныя валуны, заліло сэрцы палякаў незалежна ад таго, дзе-б яны не знаходзіліся. І гэта зусім зразумела. Стаўся цуд над Тыбрам і яго значэньня цяжка пераацаніць. Італійцы і ўся сусьветная прэса прыняла гэтае здарэньне з задаваленьнем. Аб савецкай гаварыць не прыходзіцца . . .

Чым-жа Айцы кардыналы кіраваліся ў выбарах, парушаючы даўжэсную традыцыю, што Папа выбіраецца з паміж дастойнікаў італьянскіх? А калі не італʼянец, дык чаму-ж з паза зялезнай заслоны?

Перадусім трэба тут сказаць, што для каталікоў, якой-бы нацыянальнасьці Папа ня быў, ён ёсьць Галава Царквы, наступнік Апостола Пятра на рымскім пасадзе. Да яго тарнуюцца словы Хрыста, некалі сказаныя да Пятра: »І я табе кажу, што ты ёсьць Пётр (Скала), і на гэтай скале збудую маю Царкву і брамы пекла не перамогуць яе«. (Мат. 16, 18).

Апрача дагматычнага рэлігійнага элемэнту ў выбарах Папы мелі і маюць важную ролю іншыя матывы ці прычыны, якія можам называць другараднымі, але-ж не абыякавымі для хрысьціянскага сьвету. Сама асоба на такое становішча павінна быць адпаведнай і належна прыгатаванай.

Кароль Вайтыла радзіўся ў Вадавіцах непадалёк ад славацкай мяжы ў кракаўскай



**Беларускія Сьвятары з Папам Янам Паўлам II. З права ад Папы: Біскуп Ч. Сіповіч, мітраф. прот. А. Надсон, а. К. Маскалік. На лева ад Папы: Архімандрыт У. Тарасэвіч, а. др. Р. Тамушанскі. Ватыкан, 19 лютага 1979.**

дыяцэзыі 18 траўня 1920 г. Ня маючы 10 гадоў страціў матку, а ў час апошняй вайны згінуў яго бацька ў вайсковым рангу падафіцэра. Будучы ў сярэдняй школе мусіў цяжка працаваць, каб дапамагаць сваей сям'і. У вайну працаваў у копнях каменя, у хэмічнай фабрыцы, студыюючы адначасова тэалёгію перш тайна, а пасьля ў кракаўскай сэмінарыі. 1 лістапада 1948 г. быў рукапаложаны ў сьвятары. У гадох 1946-48 прадаўжае студыі ў Рыме ў дамініканскім унівэрсытэце »Анджэлікум«. Тут у праф. Гаррыгу-Лягранжа абараняе дакторскую тэзу »Праблема веры у творах сьв. Яна ад Крыжа«. У тым самым часе ягонымі сябрамі студыяў былі сяньняшнія кардыналы дамініканцы: Павал Філіп і Марыё-Людовік Чяппі, якія прыймалі удзел у конклявэ. Далей мы бачым сьвятара Вайтылу на парахвіі, прафэсарам у Любліне, занятым з акадэміцкай моладзьдзю. 4 ліпня 1958 г. высьвячаюць пралата Вайтылу на біскупа і ён ёсьць біскупам аўгзіліярным Архіепіскапа Базяка, а пасьля ягонай сьмерці ў 1964 г. заступае ягонае месца. 26 чэрвеня 1967 г. Папа Павал VI надае яму годнась кардынала.

Біскуп Вайтыла быў вельмі дзейным на II-ім Ватыканскім Саборы, асабліва, калі парушаліся такія справы як свабода рэлігіі, праблемы моладзі, сужэнства. Помню, як у час генэральнай сэсіі дня 25 верасьня 1964 г., кракаўскі біскуп гаворачы аб свабодзе прыгожа тлумачыў евангегьскія словы »Праўда вас высвабадзіць«. Тады ён між іншым сказаў: каб зьніклі царкоўныя падзелы, трэба пазнаць праўду. Атэісты ймкнуцца асвабадзіць чалавека ад Бога.

Біскупу Вайтылу было даручана рэдакцыя часткі Канстытуцыі »Гаўдіум эт Спэс«, якая разглядае умовы і лятуценьні сучаснага чалавека. У кніжцы »Любоў і адказнасьць« глыбей парушыў тайну сужэнства і прыгатаваньня да яго.

Папа Павал VI цаніў кракаўскага Архіпастыра. У сакавіку 1976 г. даручыў яму кіраваньне 8-мі днёвымі рэкалекцыямі, у якіх сам і ягоныя супрацоўнікі бралі ўдзел.

З гэтага кароткага жыцьцяпісу цяперашнягага Папы Яна Паўла II бачым, як Бог прыгатаўляў яго да вельмі адказнога становішча. Будучы з натуры здольным, ён моцна працаваў над сабой і каб здабыць веду. Ён

прысвоіў некалькі чужых моваў, любіў горы і спорт.

Вельмі важным у яго выбары было і тое, што ён знае камунізм і то нятолькі ў тэорыі. З выбарам Папы Яна Паўла II славянскі сьвет выходзіць са сваіх межаў. Як ня дзіва, але выбраны ён быў у кастрычніку, у дзень сьв. Ядвігі. Каб-жа ад гэтага кастрычніка ды пачалася новая эпоха, якая зьмяніла-б характар сацыялістычна-бязбожны, камуністамі прапагаванай сусьветнай рэвалюцыі!

У адкрытым нядаўным пасланьні да польскага народу Папа выказаў асаблівую падзяку кардыналу Вышынскаму і філядэльфійскаму Кролю. Без сумніву абодвы гэтыя дастойнікі нятолькі зьвязаныя кроўю і прыязьню, але кожны з іх, розным спосабам, мелі таксама ўплыў на вынік апошняй конклявэ.

Чаго мы беларусы можам спадзявацца ад новага Папы паляка?

Ён для нас з'яўляецца Папам, Айцом, як і для ўсіх іншых. Разумеіцца, як ніхто ня зьменіць цячэньня Віслы ці Нёмана, таксама ніхто не пераменіць той існасьці, што нашымі суседзямі ёсьць палякі і наша гісторыя зазубляецца і пераплятаецца з іхняй. У мінулым мы мелі шмат горкіх дасьведчаньняў з боку палякаў і што мы сёньня ня маем на Беларусі дастаткова свайго собскага духавенства, нясуць за гэта адказнасьць у вялікай меры польская перадваенная адміністрацыя і іхняя герархія. Беларуская мова была недапусканая у сьвятыні, а нямногія беларускія сьвятары ня мелі змогі працаваць сярод свайго народу. Мы спадзяёмся, што калі Бог пасылае Польшчы асаблівыя дары, то і палякі будуць мець адвагу прызнацца да крыўдаў, якія нам спрычынілі і тады між намі і імі заўладае запраўдная братэрская любоў.

Пасьля апошняй вайны група беларускіх сьвятароў пачала душпастырскую працу сярод сваіх суродзічаў на чужыне. Мы заўсёды мелі ласкавую дапамогу з боку Папаў Піуса XII, Яна XXIII і Паўла VI. Мы маемо надзею, што і новы Папа, сын суседняга нам народу, які знайшоўся ў падобнай сытуацыі як і наш народ, будзе апякавацца намі і паводле магчымасьцяў нам дапаможа на бацькаўшчыне і на чужыне.

Мы молімся за Папу Яна Паўла II і шчыра жадаем, каб Бог захаваў яго на многія годы!

---

*а. Т. ПАДЗЯВА*

# ДОБРАЯ НАВІНА —

## 21-я КАТЭХЭЗА

**Закон Запавету. Адносіны чалавека да Бога.**

У кнізе Другога Закону чытаем: »Слухай, Ізраіль, наш Бог ёсьць Ягвэ і толькі адзін Ягвэ. Любі свайго Бога Ягвэ усім сэрцам сваім, усёй душой сваей, усей сілай сваей. Хай гэтыя словы астануцца ў тваім сэрцы, словы, якія для цябе ёсьць загадам. Навучыш іх сваіх дзяцей, гавары пра іх ў доме, ў падарожжы, кладучыся спаць і ўстаючы з пасьцелі«. (Др. 3. 6, 4-7).

Абавязкі чалавека ў адносінах да Бога выявіў сам Бог у законе запавету на Сынаі, а прыпамінаў іх пасьля шмат разоў у розных часах праз выбраных людзей. Выводзяцца яны з галоўнага загаду любіць Бога. (Др. 3. 6, 5). Гэта ёсьць першы і найвялікшы загад. З любві да Бога вынікае ўсё тое, аб чым гавораць тры першыя загады Дэкалёгу.

Хто любіць Бога, той аддае Яму пашану як адзінаму сапраўднаму Богу »Абрагама, Богу Ізаака, Богу Якуба«. (Вых. 3, 6). Стараецца Яго пазнаць. (Мудр. 15, 3). Чым хто пазнае лепш Бога, тым больш Яго любіць, ёсьць Яму паслушны ды праслаўляе Яго. Ён сьцеражецца ўсяго, што ад Бога адводзіць і што памыкаецца заняць месца Бога ў душы чалавека.

Хто любіць Бога, той ня будзе без патрэбы ўжываць Божае імʼя Ягвэ. (Др. 3. 5. 11). Ён будзе выгаварываць гэтае імя з пашанай і толькі ў сапраўднай патрэбе.

Хто любіць Бога, той помніць пра загад: »Шэсьць дзён будзеш працаваць і выконываць усю сваю працу, а сёмы дзень — гэта адпачынак Твайго Госпада Ягвэ. Ня будзеш нічога рабіць . . .« (Др. 3., 5, 13-14).

Чалавек найлепш выказвае сваю залежнасьць ад Бога цераз ахвяры: Прынясі Богу пахвальную ахвяру, малітвы свае дай Найвышэйшаму«. (Пс. 49, 14). Хто любіць Бога, той дбае пра Ягоную сьвятыню і ахвотна яе адведывае і паўтарае з псальмістым: »Люблю, Госпадзе, дом, у якім Ты жывеш і месца, дзе прабывае Твая слава«. (Пс. 25, 8).

Аднак Бог жадае, каб людзі аддавалі Яму пашану ня толькі славамі, але і учынкамі (Із. 29, 13). »Сынок, дай мне сваё сэрца, хай твае вочы трымаюцца Маіх шляхоў«. (Прып. 23, 26).

*

Бог Запавету, Ягвэ, ёсьць і нашым Богам. Закон, які Ён даў, ёсьць і нашым законам. Хрыстос не прыйшоў скасаваць Закон або Прарокаў, але каб выпаўніць. (Мат. 5, 17). Калі адзін з жыдоўскіх настаўнікаў запытаў у Яго: які загад ёсьць найбольшы ў Законе? Хрыстос адказаў: »Будзеш любіць Госпада Бога свайго ўсім сэрцам сваім, усёй душой сваей і ўсім сваім розумам. Гэта ёсьць найвялікшы і першы загад«. (Мат. 22, 35-38). Ісус Хрыстос загадаў нам любіць Бога так, як дзеці любяць бацьку, бо хрысьціянін цераз хрост ёсьць сынам Бога.

НАШ АДКАЗ БОГУ: Пакажу, што люблю Бога, выконываючы Ягоныя загады.

ПРЫКЛАД МАЛІТВЫ: »Каго-ж маю на небе? І на зямлі — акрамя Цябе — не жадаю нічога. Хаця-б зьнямагалі маё цела і сэрца, Бог скала майго сэрца й удзел мой на векі«. (Пс. 72, 25-26).

БОЖАЕ СЛОВА: »Як-жа прыемная сяліба Твая, о Госпадзе сілаў! Нудзілася душа мая і тужыла на панадворках Госпадавых; сэрца маё і цела маё весяляцца ў Богу жывым«. (Пс. 83, 2-3). »Хто любіць бацьку або матку больш чым Мяне, той Мяне нявартьı. І хто больш любіць сына або дачку чым Мяне, той нявартьı Мяне«. (Мат. 10, 37). »Бо тое ёсьць любоў да Бога, каб мы выпаўнялі Ягоныя загады; а загады Ягоныя не цяжкія«. (1 Ян 5, 3).

ПЫТАНЬНЕ ДА 21-ай КАТЭХЭЗЫ:

38) **Які ёсьць першы і найвялікшы Божы загад?**

АДКАЗ: **Першым і найвялікшым Божым загадам ёсьць: Будзеш любіць Госпада свайго Бога ўсім сэрцам сваім, усею сваею душою і ўсім сваім розумом.**

*

## 22-я КАТЭХЭЗА

**Закон Запавету. Адносіны чалавека да бліжніх.**

»Будзеш любіць бліжняга як сябе самога«. (Лев. 19, 18).

Закон Запавету ахоплівае ня толькі загад любіць Бога, але таксама загад любіць бліжняга: »Не адмоў у дабры таму, хто мае да яго права, калі рука твая можа даваць. Не кажы бліжняму: ідзі сабе, прыйдзі пазьней, дам заўтра, — калі можаш даць цяпер. Не рабі змовы супроць бліжняга, калі ён жыве пры табе безтурботна«. (Пр. 3, 27-29).

З бліжніх трэба любіць перадусім бацькоў. Трэба іх шанаваць. Стары Табіяш казаў свайму сыну: »Зрабі мне прыгожыя пахавіны. Шануй сваю маці і не забывайся аб ей пакуль яна будзе жыць. Рабі тое, што ей можа спадабацца і не засмучай ейнае душы ані адным сваім паступкам. Прыпомні сабе сынок на сколькі розных небясьпек наражалася яна дзеля цябе, калі насіла цябе ў сваім улоньні. А калі памрэ, пахавай яе радам са мной у той самай магіле«. (Таб. 4, 3-4).

Таксама трэба любіць і чужых і добра ім рабіць: »Ня будзеш крыўдзіць чужынцаў, бо ведаеце, якое жыцьцё чужынца, бо-ж і самі вы былі чужынцамі ў Егіпце«. (Вых. 23, 9). Нікога нельга крыўдзіць: »Забярэце проч з Маіх вачей зло вашых праступкаў! Перастаньце рабіць зло! Вучыцеся рабіць дабро! Клапаціцеся пра справядлівасьць, памажыце прыгнечанаму, аддайце сіраце належнае, выступайце ў абароне ўдавы«. (Із. 1, 16-17). »Калі спаткаеш вала свайго ворага або заблудзіўшага ягонага асла, адвядзі іх да яго«. (Вых. 23, 4). »Заработку якога-колечы чалавека, які ў цябе працаваў, не затрымлівай да заўтра, а выплачывай адразу«. (Таб. 4, 14). »Дурны той, хто чужаложыць, бо на сваю згубу робіць ён гэта. Цялеснае пакараньне і сорам ён знойдзе, а ганьбы ніколі ня змые«. (Прып. 6, 32-33). »Бо людзкія шляхі перад вачыма ў Ягвэ. Ён бачыць усе людзкія сьцежкі, калі грэшніка зло агартае, ды калі зьвяжуць яго путы ягонага грэху. Памрэ ён з нястачы навукі ў множасьці шалу свайго заблудзіць«. (Прып. 5, 21-23). У адносінах да ўсіх людзей прарок вучыць: »любіце праўду і згоду«. (Зах. 8, 19).

Закон Запавету бярэ ў асаблівую абарону ўбогіх: »Калі пазычыш грошы ўбогаму з Майго народу, які жыве поруч з табою, дык не паступай з ім як ліхвяр і не загадывай яму плаціць табе працэнты«. (Вых. 22, 24). »Хто бліжнім пагарджае — той грашыць; шчасьлівы, хто ўбогаму спагадае«. (Прып. 14, 21). »На сколькі хопіць тваей маемасьці, давай з яе міласьціну. Будзеш мець мала — давай менш, але ні аднеківайся даваць міласьціну нават з невялікае маемасьці«. (Таб. 4, 8).

Як бачым, са сьвятых Кніг вынікае ясна, што Бог жадае, каб людзі любілі адны другіх.

Закон Запавету імкнецца да таго, каб між людзьмі заўладалі любоў і ўзаемная згода, ды каб не было самалюбства й ненавісьці. Гэты Закон абавязвае ўсіх людзей у кожным

часе. Ісус Хрыстос пацьвердзіў гэты закон і паставіў яго побач закону любові Бога. Аб законе, які загадывае любіць Бога, Хрыстос сказаў: »Гэта ёсьць найвялікшы і першы загад«. І тут-жа дабавіў »А другі падобны да яго: будзеш любіць свайго бліжняго, як сябе самога. На гэтых двух загадах апіраецца ўвесь Закон і Пракрокі«. (Мат. 22, 33-40).

Такім чынам для нас хрысьціян любоў бліжняга ёсьць меркай любові Бога. Аб гэтым вучань Хрыстовы кажа: »Калі-б хто казаў: я люблю Бога, а брата ненавідзіўбы, той брахун; бо хто ня любіць брата свайго, якога бачыць, як можа любіць Бога, якога ня бачыць? (І Ян 4, 20).

НАШ АДКАЗ БОГУ: Буду як найлепш выпаўняць загад любові бліжняга.

ПРЫКЛАД МАЛІТВЫ: »Цешуся я з Твайго слова, як той, хто прыдбаў вялічэзную карысьць. Ненавіджу ілжы ды брыджуся ею, а Закон Твой люблю«. (Пс. 118, 162-163).

БОЖАЕ СЛОВА: »Загад новы даю вам, каб вы адны другіх любілі; як Я палюбіў вас, так і вы любіце адзін другога. Па гэтым пазнаюць усе, што вы Мае вучні, калі будзеце любіць адзін другога«. (Ян 13, 34-35).

ПЫТАНЬНЕ ДА 22-ой КАТЭХЭЗЫ:

39) **Які Божы загад у Законе Запавету любіць бліжняга?**

АДКАЗ: **Бог загадаў у Законе Запавету: »Будзеш любіць бліжняга як сябе самога«.**

*

## 23-я КАТЭХЭЗА

**Бог заўсёды са сваім народам.**

»Буду жыць сярод сыноў Ізраіля... І пазнаюць, што Я Ягвэ ёсьць Богам, Які вывеў вас з зямлі егіпецкай і быў з вамі Я, ваш Бог Ягвэ«. (Вых. 29, 45-46).

У кнізе Быцьця ёсьць гутарка аб тым, як Бог стварыўшы першых людзей паказываўся ім і сябраваў з імі. Цераз першародны грэх чалавек парваў лучнасьць з Богам. Але заключыўшы на Сынаі запавет Бог аб'явіў, што жадае аставацца са сваім народам. Гэта азначала, што Бог жадае даваць азнакі сваей прысутнасьці, бо-ж Ён ёсьць заўсёды прысутны на небе, на зямлі й на кожным месцы, хаця Яго ня можна бачыць вачамі, бо Ён ёсьць духам. Нашыя вочы могуць бачыць толькі матэрыяльныя рэчы.

Знакам Божае прысутнасьці для жыдоўскага народу была перш Арка (Скрыня) Запавету, у якой перахоўваліся 10 Божых Загадаў, выпісаных на каменных плітах. (Вых. 25, 16). Арку Запавету Бог загадаў памясьціць у падарожнай сьвятыні, якую жыды пераносілі з аднаго месца на другое ў час свайго падарожжа з Егіпту да Зямлі Абяцанай. Жыды верылі, што калі Бог ёсьць з імі, дык Ён апякуецца народам, асабліва, калі ім прыходзілася змагацца з ворагамі. Аднак здаралася, што Арка траплялa ў рукі ворогаў. (І Сам. 5, 1-7). Тады жыды маглі пераканацца, што Бог і надалей імі апякуецца, хаця Аркі між імі не было.

Цар Давід памясьціў ужо на заўсёды сьвятыню ў Ерузаліме, а ягоны сын, Салямон, пабудаваў першую сьвятыню з дрэва і каменьняў. У гэтай сьвятыні, таксама як перш у падарожнай, было месца »сьвятое« і аддзеленае ад яго »сьвятое сьвятых« або »найсьвяцейшае«. Тут перахоўвалася Арка Запавету. Сьвятыня з Аркай у Ерусаліме была новым знакам Божае прысутнасьці ў сваім народзе: »Буду жыць сярод Ізраілітаў і не пакіну свайго ізраільскага народу«. (III Ц. 6, 13).

Салямонаву сьвятыню разбурыў вавілонскі цар. Загінула тады й Арка Запавету. Бог аднак не пакінуў свайго народу. Жыды зразумелі, што і без Аркі Бог усёроўна ёсьць з імі. Прарок Езэхіель запісаў: »Вось што кажа Госпад Ягвэ: Хаця я і выгнаў іх у сьвет іншых народаў і расцярушыў па землях, аднак праз нейкі час буду ім сьвятыняй на гэтых землях, гдзе яны знайшліся«. (Эз. 11, 16).

Вярнуўшыся з няволі жыды адбудавалі сьвятыню. Аркі Запавету ўжо ў ей ня было і месца »найсьвяцейшае« было ўжо пустое. Бог Запавету, дапусьціўшы разбурэньне сьввятыні ды загубу Аркі, цяпер навучаў народ свой праз пракрокаў аб тым, што Ягоным домам і сьвятыняй ёсьць увесь выбраны народ. Гэты **дом** Бог абяцаў адчыніць для ўсіх людзей. (Із. 56, 5).

*

Хрыстос заключыў Новы Запавет паміж Богам і **новым** Божым народам. Стары Запавет уступіў сваё месца Новаму. Калі Хрыстос уміраў на крыжы, заслона ў сьвятыні »раздзерлася надвое ад верху да нізу«, (Мат. 27, 51), »сьвятое сьвятых« перестала быць знакам Божае прысутнасьці. Ад таго часу Бог ёсьць у Хрыстовай Царкве, ў Божым народзе Новага Запавету. Сьвятыя Тайны сталіся цяпер знакамі таго, што Бог жыве і дзейнічае ў нас. Асаблівым знакам гэтае Божае прысутнасьці ёсьць сьвятая Літургія або Эўхарыстычны сход веруючых. Прысутнасьць Бога ў Царкве сьведчыць, што Ён хоча аставацца з усімі людзьмі, каб

іх ратаваць. »Каб урэчаісніць гэтак вялікае дзела, Хрыстос ёсьць заўсёды прысутны ў сваей Царкве, асабліва ў літургічных дзеяньнях. Ён ёсьць прысутны ў Эўхарыстычнай жэртве сьвятой Літургіі ... прысутны сваей сілай у сьвятых Тайнах ... прысутны ў сваім слове ... прысутны тады, калі Царква моліцца і пяе ...« (Канстытуцыя аб Літургіі, нр. 7).

НАШ АДКАЗ БОГУ: Хачу ўсьцяж лепш зразумець, што Бог астаецца з намі, з новым Божым народам.

ПРЫКЛАД МАЛІТВЫ: Божа, Ты з жывых і выбраных каменьняў прыгатаўляеш Сваей Велічы вечнае месца прабываньня, памажы Свайму народу, які пакорна Цябе просіць, каб рост будынкаў Тваей Царквы павялічыў духовы ўзрост вернікаў. (З Літургіі на пасьвячаньне Царквы).

БОЖАЕ СЛОВА: »Неба маім тронам і зямля ў мяне пад нагамі! Які-ж дом вы мне можыце паставіць і якое месца прыдбаць мне на жыльлё? Гэта-ж усё зрабіла мая рука і да мяне ўсё яно належыць!« (Із. 66, 1-2). »Ці-ж вы ня ведаеце, што вы ёсьць сьвятыняй Божай і што Дух Божы жыве ў вас? ... Божая сьвятыня ёсьць сьвятой, а гэтаю сьвятыняю вы ёсьць«. (I Кар. 3, 16-17).

ПЫТАНЬНІ ДА 23-ай КАТЭХЭЗЫ:

40) **Што было знакам асаблівай сувязі Бога з выбраным народам?**

АДКАЗ: **Знакамі асаблівай сувязі Бога з выбраным народам былі Арка Запавету і Сьвятыня.**

41) **Як мы спатыкаемся з Богам прысутным у Царкве?**

АДКАЗ: **З Богам прысутным у Царкве мы спатыкаемся ў малітве Царквы, у Божым Слове, у Сьвятых Тайнах, а перадусім на Эўхарыстычным сходзе або зборцы.**

*

## 24-я КАТЭХЭЗА

**Бог ёсьць Валадаром і Бацькам свайго народу.**

Бог жаліўся на свой народ прароку Малаху: »Сын павінен шанаваць свайго бацьку, а слуга свайго спадара; дык калі я ёсьць вашым бацькам, дзе-ж мая пашана? І калі я спадар, дзе-ж мая чэсьць?« (Мал. 1, 6).

Бог аб'явіў жыдоўскаму народу, што Ён ёсьць ягоным Господам і Бацькам. Цераз выбраных пасрэднікаў прыпамінаў яму, што Ён ёсьць таксама Валадаром гэтага народу, бо ён яго стварыў: »Мы толькі гліна, а Ты наш ганчар. Усе мы ёсьць творам Тваіх рук«. (Із. 64, 8). Бог называе сябе спадаром Ізраіля, бо выбраў яго з паміж усіх народаў і выкарыстоўваў яго ў гісторыі выратаваньня. Вывяў яго з Эгіпту, у дарозе карміў яго маннай і паіў вадой са скалы, прывёў яго ў Абяцаную Зямлю: »Я ёсьць Ягвэ, Які вывяў вас з эгіпецкай зямлі, каб быць вашым Богам«. (Лев. 11, 45). Бог кіраваў падзеямі Ізраіля, пасылаў яму правадыроў і прарокаў. Надзяліў свой народ усялякім багацьцем: »На вяршыну зямлі вывяў яго, каб жыў ён пладамі поля, каб смактаў мёд са скалы, ды аліву з найцьвярдзейшага каменьня«. (Прып. 32, 13). Калі жыды змагаліся, Бог даваў ім перамогу. »Ня бойцеся! ... Ягвэ будзе змагацца за вас, а вы будзеце спакойныя«. (Вых. 14, 13-14). Гэтак заахвочываў Майсей жыдоў.

»Горы акружаюць Ерузаліму — гэтак Госпад акружае народ свой цяпер і на векі«. (Пс. 125, 2).

Аднак жыды іншы раз забываліся пра свайго Госпада і не трымаліся Ягонага Закону. Тады паўставалі прарокі і перасьцерагалі іх: »Чаму нарушаеце загады Ягвэ? Таму вам і не шанцуе! Таму што вы пакінулі Ягвэ, дык і Ён вас пакінуў«. (2 Хрон. 24, 20). Бог сапраўды ў такіх выпадках быў суровы, »пакідаў« свой народ, дапускаючы на яго розныя няшчасьці, як няволю ці разбурэньне Ерузалімы. Гэтак Ён паступаў, каб прывесьці выбраны народ на шлях выпаўненьня Божых загадаў.

Бог, калі вёў жыдоўскі народ цераз розныя цяжкасьці і цярпеньні, аднак заўсёды аставаўся для яго бацькам. Калі зажадаў, каб фараон выпусьціў жыдоў з Эгіпту, назваў народ гэты сынам. (Вых. 4, 22-23). Вёў яго як бацька свайго сына цераз пустыню. (Др. 3. 1, 31). Калі жыды саграшылі, Майсей казаў ім: »Дык вось гэтак хочаш адплаціцца свайму Ягвэ, дурны й неразумны народ? Ці-ж ня Ён твой бацька й твой Стварыцель? Гэта-ж ён цябе стварыў і даў табе моц існаваньня?«. (Др. 3. 32, 6). Цераз прарокаў Бог пагражаў жыдам, як бацька няверным сынам: »Гора збунтаваным сынам!« (Із. 30, 1). Але адначасна прымаў іхнія просьбы ды й зноў дапускаў да сваей любві. (Із. 43, 1-7; Ер. 31, 8-10. 20). Асабліва ставаўся бацькам для справядлівых і прасьледаваных. (Пс. 67).

Аб'яўляючы Сябе Господам і Бацькам Ізраіля, гэтым самым Бог вучыў, што Ён ёсьць Господам і Бацькам усіх народаў: »Госпад для ўсіх ёсьць добры і для ўсіх Сваіх стварэньняў міласэрны«. (Пс. 144, 9).

*

Гісторыя выбранага народу ёсьць знакам і прыкладам таго, як Бог уваходзіць у жыцьцё паасобных людзей і народаў. Сёньня таксама Бог як Госпад і Бацька кіруе ўсімі. Кіруючы выбраным народам ён вёў усё чалавецтва да выратаваньня ў Ісусе Хрысьце. Сёньня ён вядзе людзей да выратаваньня цераз Хрыстовую Царкву. Ён кіруе ею таксама як даўней выбраным народам. У Царкве Ён пакінуў надпрыродныя Дары — Божае слова і Тайны (Сакраманты). Дапускае й цярпеньні, бо цераз іх Царква асягае аканчальную перамогу. (Ян 16, 33).

НАШ АДКАЗ БОГУ: Бог ёсьць маім Госпадам — буду Яму паслушны. Ён ёсьць маім Бацькам — даверуся Яму, хаця-б мне прышлося пераносіць найвялікшыя цяжкасьці.

ПРЫКЛАД МАЛІТВЫ: »Альлелюя! Хваліце Госпада ўсе народы, слаўце Яго ўсе людзі! Бо вялікая ласка Яго над намі, і праўда Яго будзе трываць навекі! Альлелюя!« (Пс. 116).

БОЖАЕ СЛОВА: »Я ёсьць Ягвэ, што вас асьвяціў«. (Вых. 31, 13). »Тады пераканаешся, што Я ёсьць Ягвэ; хто на мяне надзеіцца, ня будзе пасаромленным«. (Із. 49, 23). »І пазнаеш, што Я ёсьць Ягвэ, твой Выратавальнік (Спас) і ўсёмагутны Якубаў — твой Адкупіцель«. (Із. 60, 16). »Ён будзе клікаць да мяне: Ты ёсьць маім Айцом, маім Богам і скалой майго збаўленьня. А Я яго зраблю першаком, найвышэйшым паміж валадарамі зямлі«. (Пс. 88, 27-28). »Бо для Ізраіля Я Бацька«. (Ер. 31, 9).

ПЫТАНЬНІ ДА 24-ай КАТЭХЭЗЫ:

42) **Дзеля якой мэты Бог выбраў жыдоўскі народ і кіраваў ім?**

АДКАЗ: **Бог выбраў жыдоўскі народ і кіраваў ім дзеля той мэты, каб ён стаўся знакам і прыкладам таго, што Бог ёсьць Госпадам і Бацькам усіх людзей і хоча іх ратаваць.**

43) **Як Бог вядзе сяньня новы Божы народ — Царкву, да выратаваньня (збаўленьня)?**

АДКАЗ: **Бог вядзе сяньня да выратаваньня Царкву — новы Божы народ, цераз Божае Слова і Тайны, а таксама цераз цярпеньні і змаганьні.**

# АЙЦЕЦ ЯНКА ТАРАСЭВІЧ

**(1892-1978)**

Ў асобе айца Янкі Тарасэвіча мы згубілі пабожнага манаха сьвятара, ведамага беларускага дзеяча, прыяцеля шматлікіх незалежна ад таго, якой яны былі рэлігіі, нацыі расы. У гэтым чалавеку неяк лучылася ўсё разам: неабмежаная любоў да Беларусі, праз нейкі час сымпатыі да Саветаў, пакора і ціхасьць манаха з задорнасьцю дзеяча, а нават дэмагога. Гэтыя крайнасьці прыцягавалі да яго людзей. Дарагой для яго была ідэя еднасьці царкоўнай і ён народжаны і ўзгадаваны ў лацінскім абрадзе, пазнаёміўшыся з усходнім абрадам, нятолькі яго прыняў, але палюбіў і ён стаўся ягоным прапагатарам сярод бэнэдыктынцаў і іншых сьвятароў і сьвецкіх людзей. Але адначасова ён служыў і ў лацінскім абрадзе і ніколі ім не гардзіў. Вось гэта толькі некалькі галоўных штрыхаў багатай асабовасьці айца Янкі або Івана (неяк абодвы імяні аднолькава да яго тарнаваліся) Тарасэвіча.

*

Радзіўся Янка Тарасэвіч 20 кастрычніка (н. ст.) 1892 г. ў Клешняках, Васілішскай Гміны. Сяньня Клешнякі належаць да шчучынскага раёну, гродненскай вобласьці. Бацькі Янкі — Міхал і Хрыстына з дому Рамашкевіч. Мелі яны двух сыноў і тры дачкі: Ганулья, Казіміра і Адэльфіна. Дзед айца Янкі быў гандляром. Пазычыў камусьці грошы, а той замест зьвярнуць доўг, забіў яго ў лесе. Міхал Тарасэвіч, бацька, памёр у час першай вайны.

Народную школу скончыў Янук у Бакштах, а двуклясную ў Васілішках. Добра запамятаў ён з тых часаў свайго настаўніка ў Бакштах Васіля Чарняўскага.

Яшчэ перад першай сусьветнай вайной малады хлапец Янук Тарасэвіч у сакавіку 1911 г. прыехаў у Злучаныя Штаты Амэрыкі і затрымаўся ў мясцовасьці Нашуя ў Ню Гэмпшар. Перш працаваў у фабрыцы бавоўны падмятальшчыкам падлогі. Страшэнны пыл грыз вочы і грудзі. Мусіў зьмяніць працу і знайшоў новую ў фабрыцы ботаў. Вечарамі вучыўся пры керасінавай лямпе.

У 1912 г. ўступае ў закон Салятынаў у Гардфорд, Каннэктікут. Плакаў ад радасьці,

калі пайшоў у школу. Хутка праляцелі гады навукі ў гімназіі, калегіі і адзін год навіцыяту. На вышэйшыя студыі паслалі супэрыёры Янку ў Канаду, Монрэаль (1917-1918), а пасьля ў Швайцарыю ў Фрыбург. Тут студыюе тэалёгію (1919-1925) і заканчывае яе са ступенькай доктара тэалёгіі, абараніўшы сваю дакторскую працу на тэму: »Пакора паводле сьв. Тамаша Аквінскага«. Тутжа у Фрыбургу і быў высьвячаны 23 ліпня 1923 г. на сьвятара біскупам Бэссонам.

Між першай і другой сусьветнымі войнамі а. Тарасэвіч адведаў тры разы сваю бацькаўшчыну Беларусь у гадох 1921, 1924 і ў 1935. Як яму там паводзілася, асабліва ў 1935 г. ў час найвялікшага разгару польскага нацыяналізму вярнуўшыся ў Злучаныя Штаты ён апісаў у »Хрысьціянскай Думцы«. Тады ваявода наваградзкі Сьцяпан Сьвідэрскі проста выкінуў яго, а прычына ўсяго, што айцец Янка выступаў усюды як беларускі сьвятар, з народам і да народу гаварыў пабеларуску. Без сумніву гэта зрабіла свой уплыў на псыхэ айца Янкі і на яго пазьнейшыя адносіны да Польшчы, якой паводле яго кіравалі масоны, паны і ксяндзы шовіністы.

Будучы ў Польшчы жадаў спаткацца з кс. Язэпам Рэшэцям, але не ўдалося. Але затое пашчасьлівіла яму сустрэць кс. Віктара Шутовіча, які перш быў праз нейкі час у Зл. Штатах і жыў у тым самым кляштары Айцоў Салятынаў. Кс. Шутовіч адвёз а. Янку з Доўнараў у Варшаву, пасадзіў на міжнародны цягнік, які паімчыўся ў напрамку Вены. У рукапіснай зацемцы а. Янкі знаходзім гэткія словы пра той мамэнт: Кс. Віктар Шутовіч »стаяў на пэроне, спаглядаў на мяне і калі цягнік імкнуўся наперад у далёкі шлях, выняў ён з кішэні беленькую хустачку і махаў: гуд бай! Шчасьлівай падарожжы! Ці пабачымся шчэ калі?«

Кс. В. Шутовіч памёр 1 сакавіка 1960 г. ў Барысаве (гл.: В. Карасэвіч, Кс. Віктар Шутовіч праўдзівы патрыёт і добры пастыр, Зьніч, Сак.-Травень 1964 Нр. 76). Тут падаём адзыў айца Тарасэвіча пра свайго сьвятара сябру.

»Ці пабачымся шчэ калі? Не, не пабачымся... Вайна, перавароты, прасьледы зачынілі ўсе дзьверы, зруйнавалі ўсе хаты, вёскі, гарады, краіны, а бедны а. Віктар быў сасланы на цяжкія, катаржныя работы, а вярнуўшысь, пачаў зноў працаваць і вясьці місыянэрскую працу супроць усякіх труднасьцяў і прасьледаў. Урэшце, вымучан, струджан, памёр ад разрыва сэрца, аднойчы ноччу, калі супакойна адпачываў і раніцай ранюсенька меўся ехаць на працу, на сваю місыянерскую работу. Паховіны былі такія, якіх людзі ніколі не бачылі і ніхто нідзе не памятаў гэтакіх, з народнай любоўю к сапраўднаму духоўнаму айцу...« Гэты адзыў гаворыць штосьці і пра самога аўтара! Айцец Янка знаў савецкую рэчаіснасьць і прынамсі ў гэтым выпадку яе асудзіў.



**Айцэц Янка Тарасэвіч**

*

Вяртаючыся ў Зл. Штаты а. Янка заехаў у Фрыбург у Швайцарыю, дзе адведаў законьніцу дамініканку Марыю, Аўсяньнікаву, якая пасьля сьмерці свайго мужа Міколы за парадай айца Янкі уступіла ў закон. Адведаў таксама Рым і Парыж. Вярнуўся на старое месца ў Амэрыку і працаваў прафэсарам у Стамфорд і сярод сваіх суродзічаў. Калі ягоныя Супэрыёры запрапанавалі яму паехаць на скрай Канады ў Саскачуан, каб там працаваць сярод польскай эміграцыі, ён моцна задумаўся: »Дык вось як усё тут выходзіць — пісаў — і сплятаешся ў бязвыхаднае палажэньне, у тупік... Дык што далей рабіць, як паступіць? Блiснула іскра думкі: махні драла ў Бэнэдыктынцы!..«

Спатканьне з Абатам Пракопам Неўжылем, чэхам, вырашыла канчаткова пра далейшы жыцьцёвы шлях айца Янкі: з дазволу Рыму пакідае Салятынаў і ўступае да Бэнэдыктынцаў. У гадох 1936-37 адпраўляе навіцыят у Сэнт Джон у Міннэсота. Было яму тады 44 гады. Быў ён найстарэйшым сярод паслушнікаў. Памысна скончыўшы навіцыят прыехаў у 1937 г. ў манастыр сьв. Пракопа. Хутка пасьля спісаўся з кс. Язэпам Рэшэцям у Польшчы, які таксама пераехаў у Зл. Штаты і ўступіў у той самы манастыр што і а. Тарасэвіч. Абодвы яны высока эдукаваныя, палымяныя беларусы плянавалі заснаваць беларускі манастыр Бэнэдыктынцаў. Мелі ўжо нават добры лік кандыдатаў у Беларусі (пад Польшчай) і ў Зл. Штатах: усяго 24! Як на пачатак вельмі многа, аднак вайна пакрыжавала вялікія пляны. Далучыўся да іх толькі Ўладзімір Тарасэвіч, пляменьнік айца Янкі, цяперашні архімандрыт і кіраўнік Беларускага Цэнтру ў Чыкага.

*

Дзейнасьць айца Янкі ня гледзячы на ягоны скромны габіт бэнэдыктынскага манаха была даволі складанай і рознаякай. У сэмінарыі і калегіі быў ён прафэсарам, адначасова выдаўцом расейска-ангельскага часапісу »Голас Царквы«, дапамагаў лацінскім парафіям у Чыкага і быў душой Беларускай-Амэрыканскай-Нацыянальнай Рады, якая была заснована ў канцы 1941 г.

Першае арганізацыйнае паседжаньне БАНР-ы адбылося 9 лістапада 1941 г. у доме пры вуліцы 2623 Ўвэст Аўгуста Булевард. Арганізацыя гэта не была масавай і лік сяброў быў невялікі. Галоўнымі яе дзеячамі і адначасна сябрамі Ўправы былі: праф. Янка Тарасэвіч, Янка Чарапук-Змагар, Ігнат Лабач, Паўлюк Чопка, Макар Аблажэй і Язэп Варонка. Належаў да яе і а. Язэп-Апанас Рэшаць, які на першым паседжаньні быў выбраны кіраўніком рэлігійнай асьветы, разумеецца сярод беларусаў.

Нам ведамыя з кнігі пратаколаў 14 паседжаньняў або сабраньняў БАНР-ы у часе ад 9 лістапада 1941 г. да 29 траўня 1948 г. Праз цэлы час Старшынём як самой арганізацыі так і паседжаньняў быў а. Я. Тарасэвіч, сакратаром Ігнат Лабач.

Дзеля таго, што БАРН была адна з першых беларускіх арганізацыяў на тэрэне Зл. Штатаў, варта было-б з ей пазнаёміцца бліжэй. Каб аднак не аддаляцца задалёка ад нашай галоўнай тэмы, якой ёсьць асоба а. Я. Тарасэвіча, аб самой арганізацыі успомнім коратка. Пададзём насамперш выняткі са Статуту або Уставу, які знаходзіцца ў кнізе пратаколаў, дзе ўпісаў яго Ігнат Лабач, а прынялі яго і падпісалі дня 10 траўня 1942 г. а. Я. Тарасэвіч, Пётра Чопка, Янка Чарапук-Змагар, Макар Аблажэй і Ігнат Лабач. Тэкст падаём даслоўна так, як у пратакольнай кніжцы, стр. 18:

**Устаў I**

а) Б.А.Н.Р. абавязавайцца шанаваць Амарыканскі сьцяг-флак канстытуцію і ўсе дзяржаўныя законы

б) Б.А.Н.Р. абавязавайцца шанаваць рэлігію без разбору: праваслаўны каталік і гэдак далі

**Устаў II**

а) Б.А.Н.Р. ёсь сама дапамогавай асьвятай беларусам (Cook County) (non profit)

б) памагаць гуманітарным адміністрацiям каторыя кіруюцца дазволам амарыканскага ураду.

в) арганізаваць беларускія школы і лекціи

**Устаў III**

а) Б.А.Н.Р. павінна кажды год выберацъ урад 6 чалавек: старшыну, сакратара пратаколаў, казначея і трох чалавек так звана дырэктары ці трустысы

б) да гэтага яще можна выбіраць і другія патрэбныя камітэты усклад ураду

Далей ідуць артыкулы у якіх гутарка пра абавязкі старшыні, сакратара і г. д. Вымагалася, каб перавыбары Управы адбываліся кожны год, а звычайныя сабраньні раз у месяц. У арт. VII ёсьць правіла, што Б.А.Н.Р. ня можа быць далучана да ніякай іншай арганізацыі.

*

Першая думка арганізатараў Б.А.Н.Р-ы была назваць сваю арганізацыю »Беларуска-Амэрыканскае Тарарыства Помачы Жэртвам Вайны на Беларусі«, але на гэтакі назоў не згадзіўся Урад Штату Іллінойс. У запраўднасьці Б.А.Н.Р. была нятолькі грамадзка-культурнай арганізацыяй, але й палітычнай. На адным са сваіх паседжаньняў разглядаўся, прыкладам, дагавор генэрала Сікорскага са Сталінам. Сябры Б.А.Н.Р-ы баяліся, каб Сталін не аддаў польскім паном беларускіх земляў і таму ў гэтым духу высылаліся да найвышэйшых амэрыканскіх устаноў адпаведныя мэмарыялы. Таксама на іншым паседжаньні было прынята поўнасьцю падтрымоўваць палітыку Рузвэльта, бо сябры Б.А.Н.Р-ы ёсьць амэрыканцамі...

На паседжаньні 22 лютага 1942 г. разглядалася справа сьвяткаваньня 25 Сакавіка. Было пастаноўлена, што набажэнства з гэтай нагоды адбудзецца ў касьцеле сьв. Пракопа ў Чыкага, а сьв. Літургію »славянскім обра-

дам« адслужаць айцы Тарасэвіч і Рэшець. Ладзілася таксама акадэмія ў чэсьць Янкі Купалы і то разам з расейцамі, на якой дэклямавалі творы паэта ў беларускай і расейскай мовах. Былі навязаныя адносіны Б.А.Н.Р-ы з Усёслявянскім Кангрэсам, а П. Чопка прыймаў ад імя беларусаў у ім удзел. Вялася карэспандэнцыя з амэрыканскімі, а пасьля й з беларускімі дзеячамі у Францыі (Абрамчык) і ў Нямеччыне. Айцец Тарасэвіч спатыкаўся з Вакарам »тоже белорусам«.

Можна не згаджацца з некаторымі рашэньнямі Б.А.Н.Р-ы, бо-ж некаторыя з іх былі аж занадта сьмелыя, а іншыя вельмі-ж прымітыўныя і наіўныя, аднак сама арганізацыя зрабіла шмат, каб спапулярызаваць імя Беларусі сярод суседніх народаў, а нават амэрыканцаў. Наш ціхі манах ціраз падымаў голас як той Саванароля, або кіпрыйскі мітрапаліт Макарыос.

*

З прылівам новай сьвежай хвалі беларускай эміграцыі зьмяніўся нятолькі лік сяброў Б.А.Н.Р-ы, але і яе характар. Айцец Я. Тарасэвіч пачаў арганізаваць рэлігійнае жыцьцё для беларусаў. Ён адпраўляе сь. Літургію для іх, гаворыць беларускія казані, выдае »Лісток к Беларусам« (1952-1961). Паволі перамагаючы розныя цяжкасьці паўстае ў Чыкага першая беларуская парахвія Хрыста Спаса. Яе заснавальнікам слушна уважаецца а. Янка.

Яшчэ пару слоў пра беларускасьць айца Янкі. Выехаўшы маладым юнаком у Амэрыку ён мог зусім затраціць пачуцьцё беларускасьці, як гэта сталася з многімі іншымі нават з яго ваколіцаў і вёскі. Аднак у айца Янкі заўважваецца адваротны працэс: чым ён станавіўся старэйшым у гадох, тым больш любіў ён Бедарусь і пры нагодзе аб гэтым гаварыў. Быў ён сумным, што некаторыя нават з ягоных сваякоў гэтага не разумелі.

Скуль-жа ў яго ўзялася палымяная беларускасьць?

Ягоныя дзяды і бацькі былі шчырыя беларусы. Будучы яшчэ хлапцом ён пазнаў ксяндза Цілевіча, які прыяжджаў да хворых нятолькі са сьвятымі Дарамі, але і з кніжыцай Мацея Бурачка. І вось той сьвятар, аб якім нажаль мы нічога больш ня ведаем, зрабіўшы духоўную прыслугу хвораму, чытаў пасьля творы Багушэвіча. Гэта быў першы крок да сьведамай беларускасьці. Пасьля студыгі ў Фрыбургу, дзе была запраўдная міжнародка сярод студэнтаў, маральна змушалі чалавека да самаапазнаньня сябе, сваей нацыянальнасьці. Ўрэшце знаёмства і прыязьнь з такімі волатамі як кс. Адам Станкевіч, Віктар Шутовіч, Язэп Рэшець закончылі працэс сьпеласьці айца



Янкі. У выніку а. Янка Тарасэвіч сам стаўся пашыральнікам праўды пра Беларусь і беларусаў. Яго кніжка »Беларусы ў сьвятле праўды« ёсьць адзінай у нашай літаратуры, якая бярэ пад развагу глыбокія прынцыпы хрысьціянскай філязофіі і этыкі, якія нічуць не пярэчаць сьведамасьці й самаакрэсьленнасьці беларуса. Чуваць боль сэрца і ліюцца ў аўтара сьлёзы, калі піша пра нядолю беларуса, але адчуваецца і моцная вера ў ягоныя непахісныя сілы.

»Няма на сьвеце народу, які-б быў больш гаротным, бяздольным і балей пакінутым на зьдзекі злых людзей, як наш беларускі народ . . . Зусім здаліся мы на апеку над намі і турботы пра нас чужых народаў . . . Нас так ачмуцілі чужынцы!« Але падобна як нашыя паэты-будзіцелі, так і а. Я. Тарасэвіч зьвяртае ўвагу ня толькі на нашыя злыбеды, але й на дынамічныя сілы нашага народу:

»Ёсьць сіла ў беларускай душы, якой мы самі не пазнаём яшчэ, але якую добра знаюць чужыя людзі. Дзеля гэтага яны вядуць між сабой заўзятую барацьбу за яе, а мы астаёмся ў іх руках нявольнікамі. Сьціруй гэну сілу на правільны шлях у імкненьнях да нашага Узору (Бога) і ніякая перашкода ня вытрывае перад ёй і яна усякае спраціўленьне зломіць і зьнішчыць«.

Айцец Янка пісаў прозай, але нямала і вершам. Верш яго моцна кульгае формай, рытмікай і рымам, але часамі вельмі багаты рэлігійным і патрыятычным зьместам. Яго творы друкаваліся ў »Хрысьціянскай Думцы«, ў »Божым Шляхам«, у »Сяўбіце«. Сабраць іх ў адну кніжыцу, дык гэта быў бы даволі аб'ёмісты том і не пазбаўлены вартасьці.

*

Апошні раз а. Янка быў на Беларусі ў 1967-68 гадах. Пражыў там 9 месяцаў. Як там яму жылося, але не жадаў вяртацца ў Зл. Штаты. Трэба было прыказу ягонага Абата, каб ён завярнуў аглоблі назад... Ён ізноў жадаў ехаць на Бацькаўшчыну, магчыма, каб у сваей роднай зямлі супачыць на векі. Памёр аднак у манастыры сьв. Пракопа ў нядзелю 11 чэрвеня 1978 г. пабожна і з поўнай сьведамасьцю перапрасіўшы ўсіх і прыняўшы сьвятыя Тайны.

Пахароны былі незвычайна ўрачыстыя. Рэдка дзе здараецца, каб на іх было столькі біскупаў (5), сьвятароў (каля сотні) і маса вернікаў, не гаворачы ўжо пра шматлікіх ягоных сваякоў, акія разьвітваліся з ім са сьлязамі. Былі прысутныя на паховінах і нашыя суродзічы праваслаўныя на чале з Архімандрытам Строкам, які ля труны ў час паніхіды адгаварыў за супакой душы памёршага малітву. Цела дарога айца Янкі супачыла на манастырскіх могілках сьвятога Пракопа ў Лайл побач з пахаванымі там айцамі беларусамі Язэпам-Апанасам Рэшецем і протоерэем Васілём Гапановічам. Там беларусы прасьпявалі для ўсіх іх малітвугімн »Магутны Божа, Ўладар сусьветаў...«

**А. Д-ка**

*Біскуп* ***Ч. СІПОВІЧ***

# ПРАЛАТ ПЁТР ТАТАРЫНОВІЧ

**(1896-1978)**

Чуў я пра кс. П. Татарыновіча яшчэ перад маім выездам у Італію (1938), аднак ніколі не давялося мне тады з ім спаткацца. Ведаў, што ягоныя артыкулы друкуе »Хрысьціянская Думка« і што ён добры беларускі сьвятар. Сустрэліся мы толькі ў 1945 г. ў Рыме. Ня помню дакладна дня, але сам факт мне надоўга астаўся ў памяці. Жыў я ў Доме Айцоў Марыянаў пры вуліцы Корсіка й прадоўжываў мае студыі на Ўсходнім Папскім Інстытуце. Аднаго дня неяк пад вечар увалілася у наш Дом са сваімі хатулямі з шумам група сьвятароў, клерыкаў і законных братоў. Усе былі летувісы Марыяны, уцекачы з Летувы, ахвяры вайны. Сярод іх, як нейкі вынятак з правіла, быў і кс. П. Татарыновіч. Калі ўсе гаманілі голасна й вясёла — бо-ж наканец дабраліся жывыя да свайго законнага Дому — наш Пётр стаяў абапёршыся аб балясы сходаў бледны і змучаны, поўны нейкай задумы. Чакаў, як і ўсе іншыя, пакуль знойдзецца яму пакой.

Мая радасьць была нязвычайная: наканец у Вечным горадзе я буду не адзін толькі беларус! Радасьць аднак мая хутка перамешвалася з сумам: наш сьвятар нейкі занадта маўклівы, таёмны, толькі ягоныя вочы гарацьбыццам ненатуральным перамучаным агнём. У чым-жа справа? Толькі крыху пасьля я даведаўся, што кс. Пётр хворы на сухоты і плюе крывёй. Ваенныя падзеі зрабілі сваё: ягонае хілае здароўе падкасілі яшчэ больш. Я запраўды спалохаўся. Рымскі клімат ёсьць слаўны з таго, што акурат дапамагае гэтай хваробе разьвівацца. І ёсьць ведамым, калі біскупы высылаюць сваіх здальнейшых клерыкаў на студыі ў Рым, дык іх перасьцярагаюць: »Лепш вярніся дамоў здаровы aслом (без дактарату), чымся мёртвым львом«. А наш а. Пётр прыяжджае ужо хворы, каб падлячыцца і студыяваць!..

Будучыня аднак паказала, што ўпарты беларус можа асягнуць тое, што здавалася-б зусім немагчымым. Кс. П. Татарыновіч папраўіўся на здароўі, здабыў вучоную ступень і шмат папрацаваў у розных іншых галінах.

*

Пётр Татарыновіч радзіўся 2 чэрвеня 1896 г. ў вёсцы Гайнін на Случчыне. Яна належыла да мядзьведзіцкай парафіі, але таму што каталіцкі касьцёл царскімі ўладамі быў зачынены хлапца хрысьцілі ў Клецку 29 чэрвеня таго самага году. Бацькі будучага сьвятара Станіслаў і Караліна з дому Пашукевіч адзна-



## ПРАЛАТ ПЁТР ТАТАРЫНОВІЧ

чаліся працавітасьцю і стойкасьцю ў сваей веры. У 1866 г. мядзьведзіцкі касьцёл царскі урад жадаў перамяніць на царкву і перадаць да ўжытку праваслаўным. Парафіяне супрацівіліся. Тады зачынілі сьвятыню разам са Сьвятымі Дарамі (1887 г.). Праз 19 гадоў народ маліўся пад згрыбелымі ейнымі сьценамі аж да адкрыцьця яе ў 1906 г., гэта значыць пасьля царскага маніфэсту. І сталася дзіўная рэч: Сьвятыя Дары вельмі добра захаваліся, як сьведчыў пробашч Ванькові́ч, які адправіў першую сьвятую Літургію ў адчыненай сьвятыні.

Пра тую сьвятыню а. Пётр пакінуў гэтакі ўспамін: »І я з сваімі родзічамі, яко маленькі хлопчык, там маліўся, там прыймаў першую Камунію Сьвятую, там нарадзіўся для ідэі«. У 1910 г. магчыма ў той самай сьвятыні й атрымаў сакрамант крыжмаваньня.

Сярэднюю асьвету Пятрусь здабыў у Слуцку і Петраградзе. У той-жа паўночнай сталіцы цароў студыяваў філязофію і тэалёгію ў мітрапалітальнай магілёўскай сэмінарыі, затым у Менску, дзе рэктарам сэмінарыі быў а. Фабіян Абрантовіч, а адным з прафэсараў а. Андрэй Цікота. Тут у Менску з рук ягонага біскупа Лазінскага атрымаў сьвячаньні суб-дыяканату ў 1919 г. Калі аднак менкая сэмінарыя разам са сваім біскупам была перанесеная ў Навагрудак, некаторыя сэмінарысты, а ў тым ліку і П. Татарыновіч пераехалі ў Польшчу ў Влоцлавак. Там ён і быў высьвячаны біскупам Зьдзітавецкім разам з 6-ма іншымі сябрамі беларусамі ў сьвятары.

*

Першай пляцоўкай працы новавысьвячанага сьвятара П. Татарыновіча быў Пінск (1921-22), сталіца Палесься. Дзялянкамі ягонай працы апрача звыклай душпастырскай былі: рамонт спаленай сьвятыні і кляштару, дзе пасьля мясьцілася катэдра і пінская сэмінарыя; школьніцтва, абслуга далёкіх асяродкаў пінскага дэканату, арганізацыя »Ювэнтус Хрыстіана«. Доўга аднак тут не прышлося быць. »У тракце змаганьня з найбольшымі труднасьцямі ў Пінску — піша пра гэта сам а. Пётр — ордынарыят адклікае мяне у тагдышнюю стаціцу біскупскую, Навагрудак, дзе даручае вучыцельства ў Ніжэйшай Сэмінарыі Духоўнай, у школах элемэнтарных і нотарыят пры дыяцэзыяльным судзе, пасьля яшчэ і вікарыят пры тамашнім дзекане кс. Букрабе, пазьнейшым біскупе. Але дзеля нястачы духавенства мушу пасьля блізу трохлетняй там працы (1922-24) сьпяшыць на пляцоўку ня менш працавітую ў Баранавічы, дзе на долю маю выпала будова для школьнай моладзі спэцыяльнай капліцы... і прэфэктура ў пяцёх школах элемэнтарных і адной сярэдняй. Першыя труднасьці былі пакананы ў пер-

шым-жа годзе працы. I калі жыцьцё наладзілася і здавалася можна ўжо было папрацаваць на адным мейсцы спакайней, падасьпела шовіністычная інтрыга, паводле якое я аказаўся »яко прэфэкт взоровы, а яко Бялорусін шкодлівы«. Апінія школьнага інспэктара Гульбіна, ноторычнага бязбожніка«.

»Кс. Біскуп З. Лазінскі прызнаў маю нявіннасьць, бо бачыў як да мае беларускасьці ліпла навет праваслаўная моладзь і грамадзтва, аднак для сьвятога супакою парадзіў мне уступіць і паслаў на глухую мазурскую вёску (1926 г.). Пасьля году зноў аднак вярнуў мяне на тэрыторыю Беларусі, павяраючы мне, 6 месяцаў ужо вакуючае прабоства, Дамачэва, брэскага дэканату, убогае і надта труднае да адміністраваньня, адкуль парафіяне чынна выгналі майго папярэдніка«.

У Дамачэве працаваў цяжка кс. П. Татарыновіч 5 год (1927-32). Аднавіў ён там касьцёл (паставіў тры новыя аўтары), плебанію, пабудаваў каталіцкі народны Дом. Дапамагаў усходнім каталіцкім парафіям (Дзятычы ў Навагрудчыне), знайшоў і паслаў у езуіцкую калегію ў Холме добрага кандыдата на сьвятара — Гмэнюка.

Наступным месцам працы айца Пятра быў Столін, рэзыдэнцыя князя Радзівілла. У той ваколіцы знаходзіліся таксама 4 пункты вуніяцкія: Горадно, Альпень, Мэрлінскія Хутары і Калкі. Тут аставаўся а. Пётр ад 1932 да 1939 году. Аб сваей працы ў Століне запісаў сам ён наступна:

»Трудная была праца на гэтым прыграмічным разлеглым тэрэне, будучы у частых выпадках азылям для ўсякага роду банкрутаў і афэрыстаў. Парафія складалася з разсваранага элемэнту наплывовага: войска, паліцыі, урадаўцаў, настаўніцтва і асадніцтва, якога месны праваслаўны й каталіцкі элемэнт паляшуцкі ды земянскі не любіў. Утрымаць якоенебудзь залатое мэдіюм у гэным конглёмэраце, вывесьці лінію Каталіцкай Акцыі і развою унійнага абсалютна нельга было без страты ласкі якой із старон. Найгоршы гнеў гразіў за ўспамаганьне Уніі, утрудняючай палянізацыю; ён не астаўся бязследным у маім жыцьці і працы . . . Паміма ўсяго гэтага ў працягу 6 год удалося аднак згуртаваць людзей добрае волі да каталіцкага чыну . . .«

Апошнюю парафію, Перлеева, на якую паклікаў кс. Татарыновіча ягоны біскуп, дзеля ваенных абставінаў ня мог абняць.

Што ёсьць характэрным для кс. Татарыновіча на працягу блізу 20 гадоў ягонай душпастырскай працы ў Пінскай дыяцэзьіі, гэта ягоная стойкасьць як сьвятара і як беларуса. Сярод шматлікіх заняткаў ён знаходзіць таксама час, каб пісаць і друкаваць свае артыкулы і кніжкі ў розных віленскіх тагачасных часапісах, а такжа ў выдаваным езуітамі вунійным часапісе »Да Злучэньня«. Ведамыя ягоныя кніжкі: »Сьвяты Ізыдар хлебароб«, Вільня, 1928; »Купальле«, Вільня, 1930, і іншыя.

*

Пакінуўшы Палесьсе кс. Татарыновіч едзе у Варшаву. Тут ён цесна супрацоўнічае з Беларускім Камітэтам (др. Шчорс), вучыць рэлігіі ў беларускай школе, адпраўляе набажэнствы і гаворыць казані для беларусаў у касьцеле сьв. Марціна пры вуліцы Піўнай (дазвол на гэта быў дадзены Варшаўскай Мітрапалітальнай Курыяй дня 22. II. 1942). Пасьля бачна трэба было зьмяніць касьцёл і на гэта быў дадзены дазвол ад тойжа Варшаўскай Каталіцкай Курыі з дня 19 лістапада 1943 г., Нр. 6278. Як прыклад адносінаў польскай касьцельнай улады да беларусаў у сталіцы Польшчы падаю гэты дакумант у беларускім перакладзе.

»Ў адказ на ваш ліст з дня 17 лістапада г. г. ветліва паведамляецца, што з боку Архідыяцэзіяльнай Улады няма перашкодаў, каб Паважаны Ксёндз Дабрадзей адпраўляў сьвятую Імшу (Літургію) для вернікаў беларускай народнасьці ў касьцеле Айцоў Васіліянаў у Варшаве, замест у касьцеле сьв. Марціна, як гэта было дагэтуль«.

Гэнэральны Вікары Кс. А. Фаенцкі
Натарыюс Кс. Т. Каўльбэрг

Дахавалася таксама з часу працы айца Татарыновіча ў Варшаве віншавальная папера вучаніц і вучнаў I-ае Беларускае Школы, якія ў дзень ягоных імянінаў выказываюць яму сваю ўдзячнасьць і пажаданьні. На першай бачынцы аркушованага ліста ёсьць намаляваны букет чырвоных розаў. Да таго самага ліста прышпілены бел-чырвона-белы падвойны бант. У нізе цераз увесь ліст вялікімі зялёнымі літарамі маецца напіс: з павіншаванем іменінаў. Аб ідэйным настроі вучняў той школы няма ніякага сумніву. Аб ім сьведчаць вось хоцьбы гэтыя словы, якія каліграфічна выпісаныя знаходзім на другім лісьце віншавальнай паперы:

»Жывеце нам доўга, доўга і працуйце на ніве нашага Беларускага маральна-хрысьціянскага адраджэньня і на хвалу Нашай Каханай Маці-Беларусі«. Там-жа маецца дата: 29. VI. 1944.

У 1944 г. перад выбухам варшаўскага паўстаньня большасьць беларусаў выехалі са сталіцы, а зь імі і кс. Татарыновіч. Адведаў ён Вільню, быў на 2-гім Кангрэсе ў Менску і прамаўляў на ім. У лютым 1945 г.



Варшава 1941



Дэлегацыя да Папы Пія XII:
З лева на права стаяць — Кс. П. Татарыновіч, Кс. Ф. Чарняўскі, Інж. Л. Рыдлеўскі, а. Ч. Сіповіч. Рым, 8. XI. 1946.



Беларускі Камітэт у Варшаве з праваслаўнымі Біскупамі. Кс. П. Татарыновіч стаіць 2-гі з лева. Варшава 1941.



Спатканьне беларусаў у Вечным Горадзе. Рым, лістапад 1946.



Кс. П. Татарыновіч, а. Ч. Сіповіч
Рым, 19. XII. 1946.



Кс. П. Татарыновіч і кампазытар
Алесь Карповіч. Рым, 1954.



Беларускія сьвятары з Біскупам
Б. Слосканам. Рым.



Вітай госьцю!
Кс. П. Татариновіч, а. А. Надсон,
Пятрусь Сыч. Рым, 1958.

ён ужо знаходзіцца ў Роттэнбургу, пасьля ў Брэсляў, у Вурцах і дзесьці пад канец таго-ж году дабраўся да Рыму, аб чым ужо ўспаміналася.

**Пралат П. Татарыновіч у Рыме (1945-1978)**

Прыехаў у Рым маючы ўжо 50 гадкоў жыцьця паза сабой, зь якіх шмат прысьвяціў душпастырскай працы, а таксама нямала папрацаваўшы ў грамадзкай і культурнай галінах для свайго народу.

У Рыме а. Пётр затрымаўся ў доме Айцоў Марыянаў і тут хутка знайшоў спрыяючага яму апякуна ў асобе біскупа Пятра Бучыса, тагочаснага генерала Марыянаў. Па ягонай рэкамандацыі ў лістападзе 1945 году быў прыняты на Папскі Інстытут Усходніх Навук. Скончыў яго ў 1949 г. з навуковай ступенькай доктара, абараніўшы тэзу пра сьвятога Кірыла Тураўскага.

У верасьні 1950 г. выходзіць першы нумар »Зьніча« ў Рыме, і ў тым самым годзе сьвет мог пачуць беларускі голас праз ватыканскае радыя. Абодвых важных у беларускім жыцьці пачынаў ініцыятарам быў кс. др. П. Татарыновіч!

У першым нумары »Зьніча«, верасень 1950 год, з хваляваньньнем ягоны рэдактар і выдавец падаваў вось гэткую вестку:

»Браты Беларусы!

Ваша мова дачакалася найвышэйшага прызнаньня. Вы можаце карыстацца ёю ў кожную пятніцу ў г. 18,30, слухаючы Ватыканскіх Радыёперадачаў на кароткіх хвалях . . .«

Спачатку гэтыя радыёперадачы адбываліся толькі раз у тыдзень, а калі а. Пётр перадаваў сваё каханае дзіця ў 1970 а. Архімандрыту Л. Гарошку, беларускую мову можна было пачуць пяць разоў у тыдні. Незаступімым памачнікам у чытаньні праз радыё скрыптаў быў і да сяньня астаецца а. Кастусь Маскалік.

Усе мы пакрысе памагалі час-ад-часу айцу Пятру, але гэта было нясталым і недастатковым. Таму ўвесь цяжар адказной працы валок на сваіх плячах сам іхні піянер.

Побач з працай у ватыканскім радыё кіпела выдавецкая дзейнасьць. Перадусім загарэўся »Зьніч«, які ў падзагалоўку адрэкамэндоўвываў сябе як »беларуская рэлігійная адраджэнская часопісь«. Калісьці беларускія вуніяты, пачынаючы ад Пацея, друкавалі ў Рыме свае маленькія рэчы, але ніколі яшчэ беларусы ня мелі ў Вечным Горадзе сваей сталай часопісі! Мэтай яго было здаволіць духовыя патрэбы беларусаў, а ў першую чаргу беларусаў каталікоў лацінскага абраду.

»Зьніч« — гэта незвычайная зьява ў гісторыі беларускага друкаванага слова! І гэта нятолькі, дзеля мейсца свайго нараджэньня, але й дзеля доўгіх гадоў свайго існаваньня (1950-1975), а такжа й дзеля іншых абставінаў. На працягу блізу 25 гадоў адзін і той самы рэдактар і выдавец, той самы аўтар бальшыні артыкулаў, ён-жа і мастак і кольпортэр! Хто-ж ня помніць ксяндза Пятра пахіленага над невялікай машынкай, нэрвова-задуманага, прыгатаўляючага артыкулы ў »Зьніч« або наступную радыяперадачу?! Калі яго пыталі, дзе-ж рэдакцыя »Зьніча«? Ён паказываў на свой пісьменны столік і казаў з усьмешкай: тут! тут! Усё тут і рэдактарства і выдавецтва, толькі трэба езьдзіць у друкарню . . . Італьянцы шмат робяць друкарскіх памылак . . .

Чатыры разы а. Пётр зьмяняў адрас свайго памешканьня ў Рыме, а пры тым мусіў пераносіць і рэдакцыю і выдавецтва. Усіх вышла 120 нумараў »Зьніча«.

»Зьніч« адзначаецца прыгожай вонкавай формай, з рознымі застаўкамі, абразікамі, здымкамі. Усё ў гусьце »заходнім«, можна было-б сказаць XIX-га стагодзьдзя. Быў ён ці адзін раз крытыкаваны дзеля аб'ёмістых артыкулаў, дзеля мовы. Ня шмат ён меў аўтараў, бо баяліся дасылаць свае артыкулы. Рэдактар зьмяняў нятолькі мову!

*

Апрача »Зьніча« кс. Татарыновіч зьяўляецца выдаўцом малітаўніка »Голас Душы« (Рым, 1949); Сьвятой Эванэліі і Апостальскіх Дзеяў (Рым, 1954); Г. Сенкевіча »Кво Вадзіс« (Рым, 1956); Лістоў Сьвятых Апосталаў (Рым, 1974); Пакутных Псальмаў (Рым, 1964) у вершаваным перакладзе а. Я. Гэрмановіча; Наўзорнай (першай) Імшы Сьвятой — Літургіі (Рым, 1965, 1966). Ён ёсьць таксама аўтарам некаторых артыкулаў у італійскай мове: La Santissima Vergine Immacolata é l'ispiratrice dell' unitá Cristiana in Biancorutenia, Academia Mariana Internationalis, Romae, 1957, pp. 247-249. — La crocefissione della fede e dell'anima Cristiana Biancorutena, Palestra del Clero, fasc. n. 18, Settembre 1954.

Праца і адданасьць кс. др. П. Татарыновіча не маглі аставацца незаўважнымі найвышэйшымі асобамі таго-ж Рыму, дзе з Божай волі ёсьць цэнтр хрысьціянства. 26 траўня 1961 г. была нададзена яму годнасьць Пралата Яго Сьвятасьці. Годнасьць гэта вельмі вялікая, аднак звычайна яна ёсьць толькі пачэснай і выказываецца літургічна. Хутка аднак Пралат Татарыновіч быў назначаны Сябрам Найвышэйшай Рады Для Эміграцыі. Паведаміў аб гэтым біскупаў Б. Слосканса і Ч. Сіповіча ад імя Консыстарыяльнай Кангрэгацыі кардынал Конфалёніеры дня 12 чэрвеня 1961 г. Пралат Татарыновіч уваходзіў у Раду побач усіх іншых нацыя-

нальнасьцяў і яго абавязкам была апека над беларусамі каталікамі лацінскага абраду расцярушанымі ва ўсім сьвеце.

Значная карэспандэнцыя пралата са сваімі суродзічамі ёсьць доказам, што ён перад і пасьля свайго назначэньня рабіў, што мог і то ня столькі, каб апраўдаць свой важны тытул, а каб запраўды дапамагчы нашым братом. Дзеля гістарычнай праўды сьведчу як аўтар гэтага артыкулу і як прыяцель пралата, што да ўсіх ягоных працаў і назначэньняў я адносіўся з цэлай пашанай і ў чым толькі мог, дапамагаў. Што я яго выперадзіў у сане — гэта не была мая заслуга, а ласка Бога і Апостальскай Сталіцы.

*

Глянуўшы яшче раз на ўсё тое, што пралат Татарыновіч рабіў і што зрабіў, трэба дзякаваць Богу, які нам даў гэтак выдатнага сьвятара, дзеяча. Не забывайма, што прыехаў ён у Рым хворым з адчыненымі ранамі ў грудзях!

Дарагі Пётр, дазволь што яшчэ раз гляну на цябе. Бачу паважнага прыстойнага сьвятара. Высокага росту, за моладу чорныя густыя бровы як дзве аркі над вачыма, таксама чорныя валасы на невялікай фарэмнай галаве. Пад канец жыцьця быў белы, а тая бель раскіданых валасоў прыдавала яму нейкага рамантычнага палёту

У сяброўскім кругу быў вясёлы, гасцінны, знаў шмат анэгдотаў і ўмеў расказываць. Ніколі не шкадаваў яды і напітку для гасьцей. Меў залатую канарэйку, якая ці раз вылятала з клеткі, сядала яму на плячо, калі ён пісаў . . .

Ужываючы ягонага слова закончым гэтыя радкі: пралат доктар Пётр Татарыновіч быў сьвятар наўзорны, паламянай веры, поўны любові Бога і сваіх братоў беларусаў.

In paradisum deducant te Angeli!
Requiem aeternam dona ei Domine!



**Праца над Евангельлем. Трэві.**



**Нашыя царкоўныя Дастойнікі: Пралаты П. Татарыновіч, У. Салавей, Біскуп Слоскан. Рым.**



**Беларускія сьвятары і студэнты ў Рыме з нагоды Зьезду БАКА »Рунь« і Марыялягічнага Кангрэсу. Рым, XI. 1954.**



**З сваей сястрой Міхалінай. Рым.**



**Наш Пралат!...**
**Вельмі рэдка можна было яго ўбачыць гэтак сьвяточна апранутым. Рым.**



**Прамаўляе Янка Чарнэцкі. Чыкага, VII. 1961.**



З харыстамі беларускай царквы Хрыста Спаса ў Чыкага. Чыкага, 14. XI. 1971.



СПАТКАНЬНЕ!
З лева на права: а. Ул. Тарасэвіч, Часлаў Будзька, пралат П. Татарыновіч, біскуп Ч. Сіповіч, П. Конюх, В. Пануцэвіч. Чыкага, VII. 1961.

*Біскуп Ч. СІПОВІЧ*

# СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ АЙЦЕЦ ЯЗЭП ГЭРМАНОВІЧ

**(1890-1978)**

На другі дзень Калядаў 26 сьнежня 1978 г. заснуў на векі ў Госпадзе а. Язэп Гэрмановіч. Апошнім ягоным прыпынкам быў Дом беларускіх Айцоў Марыяноў у Лёндане — Марыян Гаўз. Пражыў ён безмала 89 гадоў і памёр ня дзеля якойсьці працяглай хваробы, але проста вычэрпаліся сілы і астанавіўся матор — сэрца. Ён сам часта паўтараў: »На старасьць няма лякарства!«



**Вільня 1902 (?)**



**Вільня 1913 (?)**

Пра а. Я. Гэрмановіча — Вінцука Адважнага — пісалася ў нашай прэсе не аднойчы (глядзі: Я. Вучань, Вінцук Адважны, *Конадні,* Нр. 7, 1963, 89-95. — *Божым Шляхам,* Нр. 82, 1964, 9-12.). Пісаў і ён сам аб сабе. Нажаль толькі распачаў свае аўтобіяграфічныя успаміны, але ня меў сілаў іх прадоўжываць (глядзі: Язэп Гэрмановіч, Учора — сягодня — заўтра, *Божым Шляхам,* Нр. 137, 1973; Нр. 138, 1973; Нр. 139, 1974; Нр. 140, 1974). Зрэшты ягоная кніга »Кітай — Сібір — Масква«, якая выйшла з друку ў 1962 г. ў Мюнхэне, па-мастацку апісывае частку значную ягонага жыцьця. Творчасьцю В. Адважнага маем намер заняцца ў далейшым у нашым часапісе. Тут абмяжуемся толькі да біяграфічных дадзеных.

Радзіўся 4 сакавіка 1890 г. з бацькоў Станіслава і Ганны з дому Савіцкай у старадаўнім беларускім горадзе Гальшаны. Хутка аднак ён і ягоная сястра Людвіка асталіся толькі з маткай сіротамі, бо іхні бацька памёр у 1892 г. Ня гледзячы на вельмі-ж цяжкія жыцьцёвыя абставіны малы Язэпка, як тая расьлінка да сонца, імкнуўся да навукі. І так пачаткувую школу скончыў у Гальшанах маючы 12 гадоў. Далей вучыцца ў Ашмяне. Тут кс. Гуневіч пазнаёміў юнака з »Дудкай« Францішка Багушэвіча. Ад таго часу Язэп Гэрмановіч ёсьць нятолькі сьведамым беларусам, але дзейным змагаром за лепшую долю свайго народу.

Духоўную сэмінарыю скончыў у Вільні ў 1913 г. і там-жа быў рукапаложаны ў сьвятары. Працуе ў віленскай дыяцэзыі ў Далістове, Вялікай Лапеніцы, ў Лужках. У 1924 г. далучаецца да сяброў беларускага кляш-



**Вільня 1932. Перад выездам у Харбін.**

тару Айцоў Марыянаў у Друі. Працуе ў парахвіі, выхоўвывае моладзь, вучыць лацінскую мову ў гімназіі. Піша розныя творы і артыкулы для »Хрысьціянскай Думкі«. У 1932 г. выяжджае на цяжкую працу сярод расейцаў у Харбін на падмогу Архімандрыту Фабіяну Абрантовічу. У 1936 г. вяртаецца ў Вільню і тут кіруе Домам Студыяў, якога было мэтай прыгатаваць новае пакаленьне беларускіх сьвятароў законьнікаў. Першым прэфэктам або Супэрыёрам таго Дому быў а. Юры Кашыра, жыўцом спалены немцамі ў час апошняй вайны разам з а. Антонім Лешчэвічам у Росіцах. Айца Кашыру замяніў а. Я. Гэрмановіч. Нядоўга аднак мог ён тут аставацца, бо ў 1939 г. ваявода Бацянскі, разагнаўшы друйскіх беларускіх Марыянаў, не дазволіў працаваць а. Язэпу ў Вільні. Ізноў ён тады выехаў у Харбін, на дапамогу гэтым разам айцу Архімандрыту Андрэю Цікоце, бо Архімандрыт Фабіян Абрантовіч, адведваючы Мітрапаліта Шэптыцкага на пачатку другой сусьветнай вайны, трапіў у рукі бальшавіцкага НКВД і яго ў Харбіне заступіў а. Цікота.

У 1948 г. харбінскіх Марыянаў арыштовываюць кітайцы і прадаюць іх савецкім уладам. Свой лёс у савецкіх турмах і лагерах апісаў а. Язэп у ведамай кнізе успамінаў »Кітай — Сібір — Масква« перакладзенай сяньня на мовы літоўскую, італьянскую і польскую. Пасьля сьмерці Сталіна савецкія ўлады дазваляюць айцу Язэпу выехаць у Польшчу але не ў Беларусь (1955 г). У Польшчы пачаў пісаць а. Язэп свае Успаміны. У 1959 г. удалося пасьля доўгіх стараньняў выехаць яму ў Рым, а адтуль адчынілася дарога ў вольны сьвет. Ён змог пабываць у Злучаных Штатах Амэрыкі і лятуцеў яшчэ пра Аўстралію, Нова-Зэляндую і г. д.

Апошнімі гадамі свайго жыцьця а. Язэп быў вэгэтар'янцам. Умеў сабе прыгатаўляць мяшаніну розных фруктаў і траваў. Кожнага дня рабіў гімнастычныя цьвічэньні і прагулкі. Працаваў безупынна і шмат маліўся. Часта яго можна было ўбачыць сярод ночы ў капліцы перад Сьвятымі Дарамі. Маліўся ён за ўсіх і асабліва за гаротную нашу Беларусь. Блізу да апошняга дня свайго жыцьця ён цікавіўся сьветам і рознымі падзеямі. З ім можна было гутарыць на кожную тэму. Ён з нічога ня дзівіўся і нічым не абураўся. Ведама столькі сам бачыў, столькі перажыў! Памёр прыняўшы апошнія Сьвятыя Тайны. Калі яго цела ляжала яшчэ на ложку, была адпраўленая паніхіда. Усе сябры з Марыян Гаўз былі сумныя, але нейкі глыбокі боскі супакой валадарыў сярод прысутных. Успаміналіся словы сьв. Пісаньня: »Прыйдзі ўлюблёная Хрыста й атрымай карону жыцьця!« Мы ўсе добра ўсьвядамлялі, што адыйшоў ад нас вялікі чалавек, пабожны сьвятар, таленавіты пісьменьнік, які ператрываў савецкія турмы і лагеры і які ніколі і нідзе не пахіснуўся, калі трэба было сьведчыць аб Богу і Бацькаўшчыне.

Паховіны адбыліся дня 8 студзеня 1979 г. пры удзеле шматлікага духавенства і вернікаў. Сьвятую Літургію служыў біскуп Ч. Сіповіч у саслужэньні з мітратам А. Надсонам у капліцы ў Марыян Гаўз, куды была прывезена труна з целам памёршага. Пасьля Евангельля гаварыў казань па-ангельску а. Язэп Сельскі, цяперашні генэрал Марыянаў, які прыехаў з Рыму, а пры канцы Літургіі біскуп Сіповіч.

На могілках адмовіў малітву за душу памёршага таксама а. Янка Пякарскі, сьвятар БАПЦ, які стала жыве ў Сцівэнэдж. Ад імя ЗБВБ прамаўляў ягоны Старшыня Управы сп. Янка Міхалюк. Усе, што прыймалі удзел у паховінах, сабраліся пасьля на абед у залю школы сьв. Кірылы Тураўскага. У той-жа залі была зладжаная прынагодная выстаўка здымак а. Я. Гэрмановіча і артыкулаў, якія ўсьпелі зьявіцца і пісалі пра ягонае жыцьцё і сьмерць.



**Друя 1928. Айцы, студэнты і браты.**
**Сядзяць з лева на права: Айцы К. Смулька, В. Хамёнак, Ф. Абрантовіч, А. Цікота, Я. Гэрмановіч, Я. Дашута, студэнт К. Найловіч.**



**Друя 1931. Гімназія. Айцы Я. Гэрмановіч і А. Цікота ў сярядзіне. У апошнім раду ля дрэва стаяць Стась Нарушэвіч, Пятрусь Гайдзель. На здымку ёсьць таксама а. Ф. Журня і біскуп Ч. Сіповіч.**



Айцы Я. Гэрмановіч і Ф. Абрантовіч
Харбін 1935 (?)



1955. Вярнуўшыся із Сібіры.



Харбін, 19. XII. 1935



Вільня, 18. XI. 1936.
З лева на права: К. Саруль, А. Цьвячкоўскі, Антон Луцкевіч, Ф. Журня, А. Падзява, а. Язэп Гэрмановіч, Ч. Сіповіч, К. Аніськовіч, С. Макарэвіч.



**Вільня, чэрвень 1936.**
**З лева на права: А. Цьвячкоўскі, К. Саруль, Ч. Сіповіч, а. Я. Гэрмановіч, А. Падзява, Ф. Журня.**



**Ню Ёрк, 1962. Айцец Я. Гэрмановіч з групай беларусаў.**



**Лёндан, 1963.**
**З вучнямі школы сьв. Кірылы Тураўскага.**



**Лёндан, 1977.**
**Бывайце! Зрабіў што мог! Да сустрэчы ў Богу!**

Дзіўна яно бывае ў жыцьці: пасьля столькі розных пройдзеных шляхоў айцом Язэпам і архімандрытам Гарошкам абодвы супачылі ў той самай магіле. Тут не спраўдзілася тое, што казаў а. Язэп за жыцьця: з Гарошкам ня зыйдзешся! Ведама, што а. Леў вельмі хутка хадзіў... А цяпер зыйшліся!.. Гэтым самым яны быццам засьведчылі, што былі дзяцьмі той самай Хрыстовай Царквы, сынамі той самай Маці Беларусі, належалі да той самай Кангрэгацыі Марыянаў, абодвы былі рэдактарамі »Божым Шляхам«, а што важнейшае, што абодвы ўлучна да гэраізму ймкнуліся сваім жыцьцём апраўдаць гэты магутны лозунг. Не сумніваемся, што абодвы ёсьць нашымі заступнікамі перад Богам.

*

Усім тым, хто з нагоды сьмерці а. Я Гэрмановіча прыслаў спачуваньні, а некаторыя і ахвяры на розныя мэты: »Б. Шл.«, Бібліятэку і т. п. выказываем шчырую падзяку.



**Лёндан, 8. 1. 1979**
**Пакідае Марыян Гаўз на заўсёды.**



**Лёндан, 8. 1. 1979**
**На могілках сьв. Панкрацага. Паховіны.**



**Лёндан, 8. 1. 1979**
**Крыж — адзіная наша надзея.**



**Лёндан, 8. 1. 1979**
**»Госпада ёсьць зямля і ўся яе паўната і ўсе, што на ей жывуць«.**

*Аўген* КАЛУБОВІЧ

# АРЫШТЫ АРЫШТЫ...*

*»Провести беспощадный массовый терор против кулаков, попов и белогвардейцев; сомнительных запереть в концентрационный лагерь...«*
Дырэктыва Леніна 9. VIII. 1918 г. (В. И. Ленин. Полное собрание сочинений, изд. 5, Москва, 1958-65 гг., т. 50, стр. стр. 143-144.)

Апрача шасьцёх сваіх, у камэры № 8 мы засталі яшчэ аднаго вязьня, незнаёмага. Ён паведаміў нам, што перад нашым пераводам сюды была »блатная« камэра. Відаць, каб звольніць яе для нас, раніцою яе ўсю »расфармавалі«, параскідаўшы па іншых камэрах. Толькі яму яшчэ не знайшлі месца, і ён да наступнае раніцы быў з намі.

Высокі. Худы. Босы. На ім абдзёртая вопратка зь ненатуральна кароткімі рукавамі й калошамі. Выглядаў на дзядзьку сярэднягa веку зь інтэлігэнтным і пачуцьцёвым абліччам, аброслым кароткай рыжаватай шэрсьцю. Гэта быў айцец Аляксандар Табанькоў із Рэчыцкага раёну. Калі мы раззнаёміліся, ён расказаў нам сваю гісторыю.

На пачатку 1930 г. у БССР ішла акцыя масавага зачыненьня цэркваў. Тады была зачыненая й ягоная царква, а сам ён, падобна іншым сьвятарам, арыштаваны й прывезены ў Гомель. Сьпярша сядзеў у Ільлінскай царкве, бітком набітай амаль вылучна сялянамі. Вялікая царква, ад сьцяны да сьцяны, аўтар, даўгі прытвор із зашклёнай з трох бакоў вэрандай, а часам і пад адкрытым небам цьвінтар, абнесены каменна-жалезнай агарожай — усё было запоўнена арыштаванымі.

Аднойчы, хаваючыся ад канваіраў (яны пільнавалі іх звонку царквы), на просьбу сялянаў, ён адслужыў для іх тайны малебен. Наступнае раніцы быў пераведзены ў камэру № 8 турмы. Тут над ім доўга зьдзекаваліся блатныя.

— Парашу зь нячыстотамі ставілі на нары й патрабавалі, каб я каля яе служыў для іх літургію. За адмову — штурхалі, насьміхаліся, блюзьнерылі. Адзін зь іх ускакваў на маю сьпіну й крычаў: »А ну, баця, пакажы нам, як Хрыстос на асьле ўяжджаў у Ерусалім«. Ён тузаў мяне, біў, а ўся блатная брація рагатала: »Го-го-го! . . і-а-га!«

Уначы, калі ён спаў, хтось із іх закладаў яму паміж пальцаў ног паперкі й падпальваў іх. Агонь прыпякаў пальцы, ступні ног; ён прачынаўся, торгаў імі. Гэта звалася ў іх »посадить на велосипед«.

— Вы, пэўна, зьдзівіліся, што я босы й на мне кашуля й парткі такога малога разьмеру. Блатныя гулялі ў карты на мае чаравікі й вопратку. Хто зь іх праігрываў, адбіраў усё гэта ў мяне, каб аддаць выйграўшаму. А мне наўзамен далі гэтае рызьзё.

Ён ня сьмеў скардзіцца на блатных: яны пагражалі, што »адаб'юць пячонкі«. Прасіўся толькі ў іншую камэру, што яму цяпер абяцалі.

Канчар запытаўся:

— Скажэце, калі ласка, колькі дагэтуль зачынена ў БССР праваслаўных цэркваў?

а. Аляксандр адказаў не адразу:

— Дакладных лікаў я ня маю. Але так, як я бачу, думаю, што блізу ўсе.[1] Таксама й манастыры.

— А колькі? Вы не маглі-б назваць лічбы?

— У Менскай Кансісторыі лічылася ўсіх болей за 1.600 парафіяў.

— А колькі, паводля Вас, арыштавана сьвятароў?

— Сьвятароў, як вы, напэўна, самі ведаеце, арыштоўвалі разам із закрыцьцём цэркваў. Іх было болей, чымся цэркваў, і рэдка каго зь іх памілавалі. У кожным разе, я думаю, арыштавалі іх дагэтуль ня меней за 1.500. А наш япіскап Мазырскі, Ян (Пашын), царства яму нябеснае (а. Аляксандар перахрысьціўся), забраны быў яшчэ ў 1927 г., сасланы на Салаўкі, дзе ён у тым-жа годзе й аддаў сваю пакутніцкую душу Богу.

Наглядчык нашага калідору адчыніў дзьверы камэры, і мы ўбачылі юнака із скрынкаю кніг. Турэмны бібліятэкар рабіў свой абход камэраў. Ня ведаўшы, што камэру № 8 »расфармавалі«, ён хацеў ізноў прапанаваць блатным кнігі. А. Аляксандру кнігі былі забароненыя, а нам ён адказаў:

— Я яшчэ ня ведаю, ці кнігі вам дазволеныя. Ня маю »указаний« ад »памнача«.

Калі дзьверы зачыніліся, а. Аляксандар заўважыў, што ў былой турэмнай царкве цяпер клюб зь бібліятэкаю. Там новы »душпастыр«, »памнач«[2] Соркін, праводзіць з

*) Урывак із кнігі ўспамінаў *»На крыжовай дарозе«* — пра беларусаў у савецкіх турмах і канцэнтрацыйных лягерох у 1-ай палове 1930-ых гг. Пачатак гл. у час. *»Беларуская Думка«*, 1977 г., № 20.

1) Цяпер ведама, што толькі паадзіночныя зь іх датрываліся да 1937 г.

2) Памочнік начальніка турмы »по воспитательной части«.

крыміналістымі »политзанятия«. Яму дапамагае бібліятэкар, пра якога а. Аляксандар чуў яшчэ дома, перад сваім арыштам. Бібліятэкар тады жыў у Рэчыцы й быў сакратаром камсамолу. Пасьля таго, як адна (цяжарная) камсамолка скончыла самагубствам, кінуўшыся ў Дняпро, выкрылася, што сакратар сваіх камсамолак гвалціў, за што й быў засуджаны на год турмы.

Праз дзень да нас у камэру прывялі селяніна. У руках ён трымаў торбу з »гумном«.[3]

Як і а. Аляксандра, яго прывялі зь Ільнінскае царквы. За што ён сядзіць, селянін ня ведае: дагэтуль яго ні разу ня выклікалі на допыт. Арыштаваны ён быў у сваім сяле Малая Церабееўка Лоеўскага раёну. У ягоным сяле ніводзін гаспадар не пайшоў у калгас. За гэта із 32 двароў 30 было »раскулачана«, а ў тым і ён. Усе сем'і »раскулачаных« вывезеныя на ссылку ў Котлас, а мужчынаў у бальшыні пасадзілі ў раённую турму. Неўзабаве, разам зь іншымі, іх прывялі на Лоеўскую прыстань, загналі ў сярэдзіну баржы, наладаванай бульбаю. Так, седзячы ці лежачы на бульбе, буксірам па р. Сож іх падвезьлі пад самую царкву, разьмешчаную на беразе ракі. Які лёс іхных сем'яў, ім нічога ня ведама.

Селянін быў гасьцінны й пачаў частаваць нас астачамі сала, абгорнутага ў газэту. Таму, што гэта была першая газэта ад дня нашага арышту, яе мы выпрасілі ў яго й пачалі дасьледаваць. Ні загалоўка газэты, ні даты на ёй мы не знайшлі (яны былі адарваныя). Паводля друкарскіх асаблівасьцяў, яна нагадвала »Зьвязду«. Большую частку кавалка газэты займаў артыкул ці прамова на якімсьці зьезьдзе. (Тады мы ня ведалі, што ў часе 30. V — 12. VI у Менску адбыўся XIII зьезд КП(б)Б.) Із прачытанага нас найбольш зацікавіла крытыка дзейнасьці былога наркома земляробства БССР З. Прышчэпава. Яго абвінавачвалі ў тым, што ён, »кулацкі ідэоляг«, із 790.000 сялянскіх гаспадарак у БССР каля 20% перавёў на хутары. Дзейнасьць гэтая тут кваліфікавалася »контррэвалюцыйнай«, »шкодніцкай«, з чаго мы зрабілі прыпушчэньне, што папулярны сярод беларускага сялянства нарком мог быць ужо за кратамі.

Масавыя арышты сялянаў, перапоўненыя імі турмы, колькасьць »раскулачаных« у Малой Церабеўцы нас моцна ўразілі. Зьявілася ідэя паспрабаваць вылічыць, колькі-ж прыблізна сялян у БССР ужо »раскулачана«, саслана на ссылку ў Сібір, пасаджана ў турмы ці канцэнтрацыйныя лягеры.

Урадавай статыстыкі »раскулачаных« ня было.[4] Дзеля таго мы пачалі разважаць так. У Хойніцкім, Брагінскім, Лоеўскім і суседніх раёнах беларускага Палесься — усюды, дзе мы бачылі на свае вочы — у кожным сяле »раскулачвалі« кожны 5-15-ты двор, ці ў сярэднім ня меней за 10% двароў.[5] Мы ўзялі таксама на ўвагу й 20% хутароў, якія шмат дзе »раскулачваліся« ўсе пагалоўна, бо хутар, паводля камуністычных паняцьцяў — гэта-ж і ёсьць »кулацкая« гаспадарка. А колькі ў БССР было Малых Церабеевак, дзе »раскулачылі« амаль усё сяло?[5а]

Канкрэтна мы ведалі, што із Хойніцкага раёну на Котлас увасені 1929 г. і раньняй вясною 1930 адыйшлі 2 эшалёны »раскулачаных«. У кожным эшалёне 30 таварных вагонаў із рэчамі ўціскалі па 40 асобаў. 1.200 у вадным эшалёне, 2.400 у двух. (Характэрная дэталь: у другім эшалёне былі бацькі загадчыка Хойніцкага раённага аддзелу народнай асьветы Караткевіча, які ня змог выратаваць іх ад ссылкі. Ён прыехаў на станцыю Хойнікі разьвітацца з бацькамі. І, калі выскачыў з вагону, у якім яны сядзелі, зламаў нагу, пасьля чаго быў яшчэ зьняты й з працы за . . . »сувязь з кулакамі«).

Калі такія-ж эшалёны йшлі із усіх 101 раёну БССР (у чым ніхто не сумняваўся), лічба »раскулачаных« да раньняе вясны 1930 г. мусіла станавіць болей за 240.000. А акцыя »раскулачваньня« была толькі ў самым разгары.

Цяпер з газэтнае публікацыі мы даведаліся, што ў БССР перад пачаткам калектывізацыі мелася 790.000 двароў. 10% »раскулачаных« зь іх — 79.000 двароў. Мы памножылі іх на 5 (у сялянскай сям'і ў сярэднім было

3) »Гумно« — торба, кош і штосьць іншае з прадуктамі.

4) Яе няма й цяпер. Ленін забараняў уяўняць лічбовыя дадзеныя бальшавіцкага тэрору. Гэтак, у сувязі із правядзеньнем у жыцьцё дэкрэту 22. II. 1922 г. аб канфіскацыі царкоўных і манастырскіх каштоўнасьцяў ды мажлівым супрацівам гэтаму з боку сьвятароў і вернікаў 20. III. 1922 г. ён улажыў для сяброў Палітбюро »совершенно секретный« цыркуляр, у якім патрабаваў пры канфіскацыі ўва ўсіх 48 губэрнях савецкай імпэрыі распачаць »решительную борьбу против реакционного духовенства, сопровождая эту борьбу самыми жестокими мерами«. Аднак »По ликвидации этих (врагов) сообщить Политбюро *только устно* о результатах, касающихся возможно большого числа казней . . . *Абсолютно запрещаются* при этом *письменные* доклады и всякие сообщения«. (Фотакопія цыркуляру апублікаваная ў заходня-нямецкай газэце *Rheinischer Merkur*, № 39 за 21. XI. 1976 г.). Таму, калі часам пра гэта й даюцца якіясь лікі, верыць ім нельга: яны сьведама сфальшаваныя.

У *»Гісторыі БССР«* (АН БССР, т. 3, Мінск, 1973 г.) цьвердзіцца, што да травеня месяца 1930 г. у БССР было »раскулачана« быццам-бы ўсяго 15.629 гаспадарак (б. 414). Можна сказаць, што й гэта жахлівы лік: у 15.629 гаспадарках было болей за 78.000 ні ў чым нявінных — бацькоў, дзяцей і старых. (Параўнайце: пры жорсткім падаўленьні паўстаньня 1863-64 гг. царскімі ўладамі пакараных паўстанцаў у Беларусі й Літве было 18.507). У запраўднасьці-ж было шмат горай.

5) Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 14. III. 1930 г. прызнае, што »в некоторых районах *процент раскулаченых доходит до 15*« (падкрэсьленьне нашае — АК) — КПСС в резолюциях и решениях съездов, конференций и пленумов ЦК, изд. 7, ч. II, 1953 г., б. 549.

5а) Цяпер Малой Церабееўкі няма ні на картах БССР, ні ў апісаньнях населеных пунктаў у Беларускай савецкай энцыкляпэдыі.

ня меней за 5 асобаў), гэта дало нам лічбу 395.000.

Абагульняючы свае вылічэньні, мы прыйшлі да высnaву, што 400.000 асобаў »раскулачаных« у БССР к таму часу — мінімальная лічба.[6] Яна сьведчыла аб тым, што ў хвалі масавых арыштаў 1929-30 гг. найбольш пацярпелі сяляне. Выглядала нават, што гэта была вайна бальшавікоў супраць сялянства, каб зламаць яму хрыбет, тэрорам спаралізаваць супраціў ды прымусам загнаць у калгаспы прыгон. Для асягненьня такое мэты ўжываліся любыя сродкі гвалту й беззаконьня.

Царскіх турмаў не хапала. У камэры напіхалі людзей у шмат разоў болей, чым дазваляла царская норма. А новых, сацыялістычных, турмаў заплянавана было малавата. У самой сталіцы БССР, Менску, дадаткова да царскае турмы, у цэнтры места, пры вуліцы Урыцкага, да пачатку арыштаў 1929-30 гг. за вялізарным гмахам ГПУ із турэмнымі падваламі пабудавна новая, г. зв. »нутраная« турма ці »амэрыканка«, спраектаваная на ўзор турмы »самай капіталістычнай краіны ў сьвеце« — амэрыканскай. Дзеля таго-ж, што маштабы арыштаў далёка апярэджвалі турэмнае будаўніцтва, памылкі сацыялістычнага плянаваньня даводзілася выпраўляць »на хаду«, прыстасоўваючы пад турмы (фактычна без аніякага прыстасаваньня) кожную »мажлівую« »жылплошчу« — цэрквы, манастыры, чыгуначныя склады й г. д.

Было па адбоі, і мы спрабавалі заснуць.

Ад уражаньняў апошніх дзён з памяці ўсплылі літаратурныя сцэны царскіх часоў, як у Сібір гналі на катаргу. Мо й тых »партыяў« »калоднікаў« было ня мала. Я заплюшчыў вочы, і мне здалося, што вось я бачу, як яны йдуць, скутыя ланцугамі, уздымаюць дарожны пыл... А цяпер? Цяпер па крыжовай дарозе йдуць ня »партыі«. Што такое »партыя«? Гэта-ж усяго адзін вагон! Цяпер ідуць цэлыя эшалёны вагонаў. Эшалён за эшалёнам. Густым ланцугом ад самае Беларусі да Сібіры.

Ня ведаю, як доўга я думаў і драмаў, калі пачуў пабач сябе валтузьню й галасы. Мае сябры ўжо зачалі вайну з клапамі. Блохі й клапы не давалі нам супакою — ні ўдзень, ні ўначы. Асабліва яны атакавалі нас, калі мы клаліся спаць. Жалілі, бы пчолы. І мы мусілі зь імі ваявацъ. Вытрасаць із свае вопраткі, лазіць па нарах і пад нарамі, выпорваць іх із шчылінаў, біць, паліць запалкамі...

Мы так заняліся клапамі, што амаль не заўважылі, як адчыніліся дзьверы камэры, і парог пераступіў новы незнаёмец. Яго прывялі да нас пасьля таго, як яму абвесьцілі, што ён »памілаваны«.

Гэта быў не чалавек, а здань — так ён быў зьнішчаны фізычна й духова! Глыбака запалымі вачыма на нас глядзеў худы зьнямоганы твар. Рукі ягоныя дрыжэлі. Ад хваляваньня ён ня мог вымавіць ні свайго ймя, ні прозьвішча. Толькі назаўтра раніцою ён растлумачыў нам, што быў засуджаны на кару сьмерці й каля месяца ў вадзіночцы № 22 чакаў расстрэлу.

— Учора, калі мяне вялі із камэры ў канцылярыю, я думаў, што вядуць на расстрэл. Ішоў спакойна. Зжыўся ўжо з думкаю сьмерці. А там вычыталі, што я... памілаваны. І мяне пачало трэсьці.

Паходзіў бядак з Камарынскага раёну. Не хацеў ісьці ў калгас, уплянаваў уцёкі ў Заходнюю Беларусь. На мяжы яго затрымалі пагранічнікі, прывезьлі ў Мазыр, а стуль у Гомель. Засуджаны быў (бяз суда) як... »польскі шпіён«.

Яшчэ й таго дня ён не супакоіўся да канца. Калі прынесьлі абед, у яго ўсё яшчэ дрыжэлі рукі, і ён, як ні спрабаваў, ня мог есьці лыжкаю. Адлажыў яе на бок. Аберуч узяў міску й пачаў піць зь яе баланду. Міска білася аб ягоныя зубы.

Па абедзе яго й дзядзьку з Малой Церабееўкі выклікалі на этап.

*

Мы засталіся самі.

Рабіць ня было чаго. Чытаць не маглі: нам не давалі ні газэт, ні часапісаў, ні кніг. Я прапанаваў:

— Давайце ўкладзем новую Канстытуцыю БССР, бо дзеючая не адказвае рэальнасьці.

Канстытуцыйнай камісіі не выбіралі. Вырашылі ўкладаць усёй камэрай. Укладаць вусна, як твор вуснай народнай творчасьці, бо-ж алавіка й паперы ў камэру нам таксама не дазваляюць.

Некаторыя формулы для канстытуцыі ўжо былі ведамыя »на волі«, і іх трэба было толькі дастасаваць да нашае мэты. Дні дватры мы спрачаліся, дыскутавалі, пакуль канчальна не адрэдагавалі тэксту. Падаю яго тут так, як ён захаваўся ў маёй памяці.

6) Да канца 1933 г., калі акцыя »раскулачваньня« ў васноўным закончылася, лічба гэтая значна пабольшылася, а ў 1940-41 гг. да яе далучыліся »раскулачаныя« ў Заходняй Беларусі. 16-га жнівеня 1942 г. у гутарцы з Чэрчылем у Крамлі Сталін назваў агульную для ўсяго СССР лічбу 10.000.000 »кулакоў«, зь якіх у працягу 4-ох год вялікая частка (great bulk) была зьнішчаная, а рэшта сасланая ў Сібір (Winston S. Churchill. The Second World War, V. IV, Boston, 1950, бб. 498-499). Трэба думаць, што Сталін не пераўвялічыў названае ім лічбы; хутчэй — наадварот: у ягоным інтарэсе было пераўменшыць яе.

## КАНСТЫТУЦЫЯ БССР

**усенародна прынятая камэрай № 8 Гомельскай турмы 15. VII. 1930 г.**

### Разьдзел I. Назоў дзяржавы

§ 1. Дяржава мае назоў БССР, ці поўнасьцю — Будуйце Самі Сваё Рабства.

### Разьдзел II. Грамадзянства БССР

§ 2. Ганаровае права мець грамадзянства БССР належыць двум катэгорыям ейных жыхароў:

а) тым, хто ўжо арыштаваны; і

б) тым, хто будзе арыштаваны.

§ 3. Грамадзянства БССР прыслугоўваецца таксама й тым, хто хоць і ня мае гонару належыць да менаваных двух катэгорыяў, а нават і да сталых жыхароў БССР, але хто над імі (жыхарамі) гераічна й цьвёрдакаменна стаіць.

### Разьдзел III. Свабоды й правы грамадзяніна БССР

§ 4. Шчасьлівым грамадзянам БССР даюцца такія свабоды й правы, якія толькі можа выпрацаваць самае свабоднае, самае прагрэсіўнае грамадзтва й да якіх (свабодаў і правоў) яшчэ ня здольныя былі дадумацца нідзе ўва ўсім сьвеце.

§ 5. У поўнай адпаведнасьці із сказаным грамадзянам БССР дэкляруюцца наступныя свабоды:

а) ня думай (за цябе думае дарагая Масква);

б) калі ўжо падумаў — нікому пра гэта не кажы;

в) калі сказаў — ня сьмей пісаць і публікаваць;

г) калі-ж апублікаваў — зараз-жа адмоўся й асудзі;

д) а на ўсялякі выпадак падрыхтуй торбу сухароў.

§ 6. Да гэтых свабодаў грамадзянам БССР дзяржава ўрачыста гварантуе:

а) права на працу — у вынайдзеных Леніным і Сталіным для росквіту сацыялістычнага грамадзтва канцэнтрацыйных лягерох;

б) права на адпачынак — у спэцыяльна абсталяваных для таго дамох адпачынку, якія капіталістычная прапаганда называе турмамі: і

в) права на сьмерць — ад кулі ў патыліцу ці ад галоднай і катаржнай працы.

### Разьдзел IV. Органы вярхоўнай улады БССР

§ 7. Вярхоўным органам улады БССР, які накіроўвае усё жыцьцё незалежнай ад беларускага народу рэспублікі, зьўляецца ОГПУ, ці поўнасьцю — О, Госпадзі, Памяні Усопшых!

Не пасьпелі мы належна адсьвяткаваць прыняцьця канстытуцыі, як таго-ж 15-га ліпеня ў камэру № 8 зьявіўся невядомы нам перад тым афіцэр ГПУ. З аркуша паперы ён прачытаў уголас машынапісны тэкст із двух сказаў і прапанаваў нам падпісацца пад ім. У тэксьце паведамлялася, што справа нашая із ОГПУ БССР перададзеная ў ОГПУ СССР, у чыім веданьні адгэтуль мы й знаходзімся. Разам з тым, нумарацыя артыкулаў нашага абвінавачаньня — 72 і 76 КК БССР — аўтаматычна замененая на нумарацыю артыкулаў КК РСФСР — 58 10, 11. Так, на сканчэньні сьледзтва скончылася й сувэрэннасьць БССР: судзіць і караць нас БССР передала ўжо іншай дзяржаве.

---

КОЖНЫ ПРАДБАЧЛІВЫ ЧАЛАВЕК ПАВІНЕН АФОРМІЦЬ СВОЙ ТАСТАМАНТ. КОЖНЫ БЕЛАРУС ПАТРЫЁТ ПАВІНЕН ПОМНІЦЬ АБ БЕЛАРУСКАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ І МУЗЭЮ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ Ў ЛЁНДАНЕ.

*В. К.*

# ДЗІЦЯ Ў ПРАБІРЦЫ

25 ліпня 1978 г. ў шпіталі Олдгам Джэнэрал Госпіталь, недалёка ад Манчэстэр, радзілася Люіза Джой Браўн, першае дзіця пачатае ў шкляной прабірцы. Цяпер яно з бацькамі ў Брысталь.

Факт пачацьця дзіцяці паза ўлоньнем маткі выклікаў дыскусію так сярод вучоных як сярод сьвятароў і сьвецкіх людзей. Асягнутыя практычна вынікі ў галіне людзкой біялёгіі і генэтыкі падзялілі зацікаўленых на два табары: адны вітаюць »прагрэс« у навуцы і да іх належаць у першую чаргу бацькі нованароджанага дзіцяці, іншыя уважаюць такі працэс прыйсьця на сьвет дзіцяці небяспечнейшым для людзкога роду ад атамнай бомбы.

У чым-жа справа?

Бываюць выпадкі, што пры найшчырэйшым жаданьні сужонкаў, жанчына ня можа мець пачацьця ў сваім улоньні, бо дзеля дэфэкту ў арганізме, насеньне мужчыны не даходзіць да таго натуральнага месца, дзе звычайна пачынаецца і далей разьвіваецца жайцеся і напаўняйце зямлю«. (Быць. 1, 28; це было прынятым, што пачатак дзіцяці адбываецца праз сужэнскі акт, які Бог багаславіў: »і сказаў ім: пладзіцеся, размнажайцеся і папаўняйце зямлю«. (Быць. 1, 28; IX, 1). Усялякі акт сэксуальнай роскашы паза сужэнствам ёсьць грэшным, які зрэшты вельмі часта карае натура рознымі хваробамі.

Усіх абставінаў пачацьця і народзінаў дзіцяці з прабіркі мы яшчэ дакладна ня знаем. Аднак усё тое, што было пададзена да агульнай ведамасьці, выклікаюць вельмі сур'ёзныя пытаньні, асабліва з этычнага пункту гледжаньня.

1. Пытаньне агульнага парадку: ці можна выкарыстоўваць усюды і заўсёды магчымасьці, якія дае сучасная веда і тэхніка?

Без сумніву, што не! Інакш, мы лёгка можам разьмінуцца з правам Божым і людзкім, а гэта заўсёды ёсьць шкодным як для індывідуум, так і для грамадзтва. Напрыклад: калі мы пры сучасных маторах зможам разагнаць машыну на сто міляў у гадзіну, дык гэта ня значыць, што не абавязываюць нас правілы асьцярожнасьці таму, што мы імкнуліся да добрай мэты, як гашэньне пажару ці ехалі-б наведаць цяжка хворага.

У выпадку пачацьця дзіцяці паза натуральным актам злучэньня мужчыны і жанчыны пагражае, што пачнецца »фабрыкаваньне« дзяцей, нейкі дабор насеньня бацькі (спэрматозоа) і яйка маткі.

2. Ці жаданьне мець дзіця дае права бацькам, дактарам ужываць мэтады, якія пагражаюць катастрофай для людзкога роду?

У разгляданым канкрэтным выпадку азначае: ці гэта этычна »прадукаваць« дзіця паза актам сэксуальным звычайна дазволеным толькі ў сужэнстве? Калі так, хто-ж тады дакажа, хто зьяўляецца запраўдным бацькам ці запраўднай маткай гэтага дзіцяці і хто па-бацькаўску будзе яго ўзгадоўваць і ім займацца?

Калі-б мы згадзіліся на прадукцыю дзяцей у прабірцы, выглядае, што мы выракліся-б таго цэннага прывілею, адзінага ў сусьвеце — называць сябе людзьмі. А паміж людзьмі і жывёлай ёсьць сутная розьніца.

---

Д.

# V-ТЫ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСКІХ КАТАЛІЦКІХ СЬВЯТАРОЎ У РЫМЕ

**(14-21 кастрычніка 1977)**

V-ты з чаргі Зьезд Беларускіх Каталіцкіх Сьвятароў на чужыне адбыўся ў Рыме, у якім прыняло удзел 7 сьвятароў, адзін дыякан і адзін сэмінарыст. Кіраваў Зьездам Біскуп Ч. Сіповіч, Апостальскі Візытатар Беларусаў. Большасьць удзельнікаў Зьезду затрымалася ў Доме Айцоў Марыянаў пры Вія Корсіка, дзе таксама адбываліся Багаслужбы і ўсе паседжаньні. Нажаль на Зьезд не змаглі прыбыць дзеля стану здароўя са Злучаных Штатаў Амэрыкі Айцы Янка Тарасэвіч і Францішак Чарняўскі, а з Рыму пралат Пётра Татарыновіч.

Зьезд распачаўся дня 14 кастрычніка ў пятніцу а гадз. 7 раніцай супольнай Сьв. Літургіяй, якая была ахвяраваная за памёршых беларускіх сьвятароў на чужыне. У даволі кароткім часе адыйшло ад нас на векі аж 8 сьвятароў добра ведамых як на бацькаўшчыне так і за яе межамі. Назавём іх тут: прот. Васіль Гапановіч, а. др. Язэп-Атаназы Рэшаць з Закону Айцоў Бэнэдыктынаў, а. Казімір Урбановіч, Марыянін; а. др. Міхась Маскалік, а. прот. Уладзімір Салавей, а. др. Тамаш Падзява, Марыянін; а. Архімандрыт Леў Гарошка, Марыянін.

У час Зьезду былі прачытаныя і ўсёбакова прадыскутаваныя наступныя даклады:

1. Айцец Архімандрыт У. Тарасэвіч: Душпастырства сярод беларусаў у Чыкага і Злучаных Штатах Амэрыкі.

2. Айцец др. Р. Тамушанскі: Беларускія радыяперадачы ў Ватыканскім радыя. Даклад быў прачытаны ў беларускай мове, але быў ён прыгатаваны таксама ў ангельскай і італійскай мовах.

3. Айцец А. Надсон: Дзейнасьць Беларускага Каталіцкага Асяродка ў Лёндане. Айцец А. Надсон, які цяпер мае таксама даручанае душпастырства ў Францыі і адведвае беларусаў у Нямеччыне, паінфармаваў прысутных на Зьездзе пра беларусаў у гэтых абодвых краінах.

4. Біскуп Ч. Сіповіч: Рэлігійнае паложаньне сяньня ў БССР.

Няма змогі падаць тут поўнасьцю зьмест успомненых дакладаў, але затрымаемся прынамсь на некаторых галоўных мамэнтах. Кожны з дакладаў меў на мэце паказаць ня толькі сучасны наяўны стан нашай Царквы і той працы, якая праводзіцца, але знайсьці спосабы і сьродкі яе палепшыць. А там дзе мы ня зможам зрабіць самі, прасіць дапамогі нашых вышэйшых царкоўных уладаў, з дазволу і пры багаславенстве якіх праходзіў наш Зьезд.

Айцец Архімандрыт У. Тарасэвіч падаў гісторыю беларускай парахвіі ў Чыкага, заснаванай ягоным дзядзькам а. Янкам Тарасэвічам у 1950 г. Да яе належыць у Чыкага і яго ваколіцах каля 65 беларускіх або беларускага паходжаньня сем'яў. Нашыя суродзічы ў Чыкага маюць прыгожую царкву, у якой кожнай нядзелі і ў сьвята служацца дзьве Літургіі з беларускімі сьпевамі і казаньнямі. Пры царкве — як гэта звыкла бывае ў Амэрыцы — ёсьць абшырная заля, дзе пасьля набажэнстваў адбываюцца сяброўскія сустрэчы, даклады, хрысьціянскія агапы або бяседы з пасілкам. Беларуская Чыкагоўская парафія выдае аж тры бюлетэні: у беларускай мове »Да Злучэньня« і два ў ангельскай: »Пасланец« і »Лісты«.

Парахвіяне царквы Хрыста Спаса самі ўтрымоўваюць свой прыход, а іхняя ахвярнасьць запраўды ёсьць вялікай. Яны сплачываюць даўгі за набыты калісьці будынак для царквы і за пляц навокал яго.

Айцец др. Р. Тамушанскі, цяперашні кіраўнік беларускай сэкцыі ватыканскіх радыяперадачаў, паінфармаваў Зьезд аб праграме беларускіх перадачаў. Пяць разоў у тыдзень можна іх чуць з ватыканскіх антэнаў: кожнага панядзелку, ў аўторкі, серады, пятніцы і ў нядзелі. У праграмы ўваходзяць інфармацыі пра жыцьцё і дзейнасьць Царквы, пра Папу; парушаюцца сучасныя рэлігійныя праблемы; даюцца адказы і высьненьні для бязбожнай прапаганды. Кожнай нядзелі чытаецца сьв. Евангельле і бывае казань і рэлігійныя сьпевы.

Пасьля сьмерці а. Архімандрыта Льва Гарошкі увесь цяжар беларускіх ват. радыяперадачаў спаў на цяперашняга ягонага кіраўніка і на а. Кастуся Маскаліка, ведамага са свайго добрага голасу. Яны безумоўна патрабуюць дапамогі, асабліва ім патрэба дасылаць весткі з беларускага жыцьця.

Пра беларускі асяродак у Лёндане гаварыў у сваім дакладзе а. А. Надсон. Тут ёсьць тры розныя установы: 1) Законны Дом Айцоў Марыянаў, які налічвае цяпер шэсьць сяброў; 2) Беларуская Каталіцкая Рэлігійная Місія, якой Рэктарам з'яўляецца Біскуп Ч. Сіповіч; 3) Беларуская Бібліятэка і Музэй імя Францішка Скарыны. Гэта апошняя ёсьць агульна-грамадзкай беларускай установай і з Айцамі Марыянамі яна звязаная пастолькі, паколькі яны уваходзяць ў Управу яе і працуюць у ей.

Усе тут успомненыя інстытуцыі месьцяцца ў чатырох дамах, якія знаходзяцца радам. У Марыян Гоўз знаходзіцца капліца ўсходняга абраду, а ў доме пры 41 Гольдэн Роўд, лацінскага. У кожнай з іх кожнага дня, ў нядзелі й сьвяты, адпраўляецца сь. Літургія.

Ня мог гэты Зьезд прайсьці моўчкі Беларусь, адкуль паходзіць большасьць яго ўдзельнікаў. Пра рэлігійнае паложаньне, а ў запраўднасьці пра рэлігійны прасьлед там гаварыў біскуп Ч. Сіповіч, ёнжа арганізатар і старшыня Зьезду.

На два мільёны каталікоў у Беларусі цяпер там ёсьць толькі каля 50 сьвятароў, з якіх большасьць старыкоў і недалужных. Праўда, урад дазволіў прыняць у Рыжзкую сэмінарыю двох беларускіх студэнтаў — кандыдтаў у сьвятары — але, што-ж гэта значыць, тымбольш, калі няма свайго тэрытарыяльнага біскупа, сваей сэмінарыі, сваіх часапісаў і г. д.

Узяўшы ўсё пад развагу V-ы Зьезд Б.К.С. пастанавіў:

1) прасіць Апостальскую Сталіцу, каб якнайхутчэй назначыла для Беларусі біскупа беларуса. Гэтага вымагаюць свабода сумленьня чалавека, гварантаваная беларускай савецкай канстытуцыяй; Гэльсінгскі дагавор; гэтага дамагаюцца ўсе беларусы і іхнія пастанавіў:

2) выдаць кірыліцай Новы Запавет, Біблію, катэхізм і іншыя рэлігійныя кнігі.

3) Зьезд зьвяртаецца да ўсіх бацькоў і настаўнікаў, каб узгадоўваючы па-хрысьціянску сваіх дзетак, мелі волю і адвагу адкінуць усялякага роду спакусу матэры-

яльных дастаткаў і не забывалі прыгатаўляць іх таксама да служэньня Хрыстовай Царкве ў сьвятарскім стане.

Вось галоўныя пастановы Зьезду.

Апрача дакладаў і дыскусіяў у сувязі з імі Зьезд меў розныя спатканьні з біскупамі іншых нацыянальнасьцяў, якіх было шмат у той час у Рыме, бо адбываўся Сынод Каталіцкай Царквы. Усе ўчасьнікі Зьезду дня 17 кастрычніка былі прынятыя Яго Эмінэнцыяй Кардыналам Філіппэ, Прэфэктам Усходняй Кангрэгацыі, а таксама Сакратаром яе Архіепіскапам Брыні. Дня 19. X. 77 прынаў дэлегацыю Зьезду Яго Эмінэнцыя Кардынал Віёт, папскі штатссакратар, якому і былі даручаныя лісты-мэмарыялы да Папы Паўла VI ад імя ўсіх удзельнікаў Зьезду.

Папа Павал VI прыслаў Зьезду наступнага зьместу тэлеграму:

»Яго Сьвятасьць прыняўшы па-айцоўску выказаныя вамі шчырыя пачуцьці і пашану з нагоды Зьезду Беларускіх Сьвятароў удзяляе ад усяго сэрца Апостальскае Багаславенства і абяцае асабліва маліцца і ўсьцяж памятаць пра беларусаў вернікаў як на бацькаўшчыне таксама і звонку яе«.

Выяўленыя Паўлам VI пачуцьці ў прынагоднай тэлеграме ён яшчэ выразьней выказаў у час аўдыенцыі дня 19 кастрычніка. Тады група Беларускіх Сьвятароў атрымала ў прыгожай навачаснай залі аўдыенцыяў адно з першых месцаў. Папа прывітаўшы перш прысутных біскупаў, а сярод іх таксама Апостальскага Візытатара Беларусаў, у далейшым гаварыў:

»Гэтая аўдыенцыя ёсьць хвілінай спатканьня, хвілінай еднасьці і духовай супольнасьці.

Першых тут вітаем групу Сьвятароў Беларусі — ужо само названьне іх тут Нас усхвалёўвывае — (на залі доўгія апладысменты), якія аднак не знаходзяцца ў сваей уласнай краіне, але праводзяць душпастырскую працу ва ўсім сьвеце сярод эміграцыі, выгнаньнікі са сваей Бацькаўшчыны.

Ваша Бацькаўшчына ёсьць у нашым сэрцы. На працягу гэтага тыдня мы гутарылі пра ейны лёс, пра ваш край і робім усё магчымае, каб дапамагчы, каб падтрымаць тое, што дагэтуль асталося ў вашай Бацькаўшчыне вернага, каталіцкага, добрага. Данясеце да яе жыхараў каб ведалі, што молімся за іх і што злучаныя з імі, ды нятолькі з імі, але з усімі расцярушанымі ў сьвеце, якіх аб'едноўвывае імя Беларусі«.

З такім пачуцьцём і з такой выразнасьцю яшчэ ніводзін з Папаў так не гаварыў да беларусаў. Сказаў гэта Павал VI ў залі, якую перапоўнівалі тысячы вернікаў з розных краінаў сьвету. Ня дзіва, што як самым Зьездам Б.К.С. так і Беларусяй зацікавіліся гэтым разам жывей розныя агенцыі і журналісты.

Да мамэнтаў больш урачыстых Зьезду трэба ўлічыць таксама сьв. Літургію, якую саборна адслужылі ў базыліцы сьв. Пятра ўсе сьвятары пры аўтары сьв. Васіля Вялікага на гробе сьв. Ёзафата, Архіяпіскапа Полацкага. Некаторыя удзельнікі Зьезду адведалі а. пралата Татарыновіча, нажаль, цяжка хворага, які знаходзіцца цяпер у доме сьвятароў пэнсыянераў.

V-ты Зьезд Беларускіх Каталіцкіх Сьвятароў прайшоў у малітве і працы. Маім надзею, што ён быў карысны і што прынятыя на ім пастановы прынясуць у свой час належны плён.

*Ч. С.*

# VI-ТЫ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСКИХ КАТАЛІЦКІХ

**Рым, 15-20 студзеня 1979.**

Хаця V-ты Зьезд БКС прайшоў з посьпехам і мы ўсе мелі моцную надзею, што справы, якімі ён займаўся, будуць пазытыўна палагоджаныя Папам Паўлам VI, аднак — нажаль — сьмерць ягоная і ягонага наступніка Лючыяні ўсё затрымалі. А калі быў выбраны на Пятровы Пасад кардынал Вайтыла, кракаўскі архіяпіскап, па нацыянальнасьці паляк, нам беларусам трэба было з ім нятолькі бліжэй пазнаёміцца, але абгаварыць нашы набалелыя рэлігійныя праблемы як на Бацькаўшчыне так і на чужыне. Таму ў запраўднасьці галоўным пунктам VI-га Зьезду БКС была аўдыенцыя ў Яна Паўлы II, якой нам удзяліў дня 19 студзеня гэтага году.

Перш Папа прыняў у сваей прыватнай бібліятэцы біскупа Ч. Сіповіча, Апостальскага Візытатара Беларусаў. Пасьля яго ўсіх удзельнікаў Зьезду. Вітаючы Сьвятога Айца ў беларускай мове між іншым біскуп сказаў: »Мы спадзяёмся, што Сьвяты Айцец у сваей заботлівасьці пра ўсю Царкву заапякуецца і нашай, каторая праз доўгія годы на гістарычным шляху дзяліла долю і нядолю з суседнім польскім народам. Просім таксама багаславіць нашыя натугі ў прыгатаўляньні новых сьвятароў для нашай Бацькаўшчыны Беларусі«.



**Біскуп Ч. Сіповіч вітае Яна Паўла II ад імя беларускага духавенства. Аўдыенцыя 19 студня 1979.**

Папа праслухаўшы уважна прамову біскупа Сіповіча стоячы ласкава праабяцаў паводле змогі дапамагчы, паколькі сучасныя абставіны дазваляюць.

У час гэтай аўдыенцыі біскуп Сіповіч ахвяраваў Папу сваю кнігу, якая толькі нядаўна вышла з друку. Папа трымаючы ў руках кнігу стаў яе пералістываць і выказаў аўтару падзяку і камплімэнт дзеля навуковага апрацаваньня кнігі. Пасьля біскупу і кожнаму аддзельна раздаваў іконкі і ружанцы. Пры гэтым з кожным гутарыў пытаючыся дзе жыве і чым займаецца.

Аўдыенцыя ў Папы зрабіла на нас усіх добрае ўражаньне, а ягонае пастырскае багаславенства і ягоныя шчыры словы ёсьць зарукай ягонай жычлівасьці нятолькі да нас сьвятароў, але й для ўсяго нашага народу.

Аўдыенцыя закончылася, як гэта ёсьць сяньня ў Ватыкане прынятым, здымкай з Папам. А фотограф не траціць часу — бо гэта-ж ягоны хлеб! І мы тут падаём некаторыя з іх і гэта нятолькі дзеля аздобы нашага часапісу, але і дзеля сьвядоцтва нашых зносінаў з Галавой Каталіцкай Царквы.

Гэты Зьезд БКС адбываўся таксама пад знакам суму: нашых трох ведамых сьвятароў ужо не было сярод жывых: айца Янкі Тарасэвіча, пралата П. Татарыновіча і а. Язэпа Гэрмановіча. Сам сабой напрашываўся выснаў: **нам патрэба новых прызваньняў, нам патрэба больш сваіх ідэйных сьвятароў!** Мы зьвяртаемся да ўсіх, а ў першую чаргу да бацькоў, каб узгадоўвывалі сваіх дзетак у духу Хрыста і каб не шкадавалі іх аддаць на Божую службу. Усе апошнія Папы (за выняткам Лючыяні, каторы быў вельмі коратка) пачынаючы ад Пія XII нас прыймалі, віталі і нам дапамагалі. Але можа стацца так, што ня будзе каго вітаць і прыймаць... На Бацькаўшчыне — мы ўсе ведаем — рэлігійны прасьлед, але-ж тут у вольным сьвеце?

Божа, дай нам больш сьвятароў!



**Айцец Др. Р. Тамушанскі і Архімандрыт У. Тарасэвіч атрымоўваюць падаркі.**



**Архімандрыт У. Тарасэвіч і Біскуп Ч. Сіповіч гутарацьз Янам Паўлам II.**



**Папа аглядае кніжку, якую падарыў яму сам аўтар.**

УПРАВА Беларускай Бібліятэкі і Музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане зьвяртаецца да суродзічаў з просьбай прысылаць беларускія цэннасьці, як манэты, рукапісы, друкі, здымкі і інш. на адрас:

THE FRANCIS SKARYNA BYELORUSSIAN LIBRARY,
37 HOLDEN ROAD, LONDON, N12 8HS

# З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

### Малітвы за прасьледаваныя Цэрквы

9 сьнежня 1977 г. ў Лёндане ў капліцы Бромптон Ораторы маліўся народ праз даўжэйшы час (ад 7 гадз. вечара да 12 ўночы) перад выстаўленымі Сьвятымі Дарамі за прасьледаваныя Цэрквы. Малітвы перапляталіся набожнымі сьпевамі, казаньнямі і рэлігійнымі прамовамі. Сярод прысутных можна было бачыць апрача ангельцаў і ірляндцаў, чэхаў, румынаў, палякаў, летувісаў, латышоў і іншых. Казань на тэму евангельскіх слоў: »А калі прыйдзе ізноў Сын Чалавечы, ці знайдзе Ён веру?«, сказаў Біскуп Ч. Сіповіч, Ап. Віз. Бел. Ён таксама моцна падкрэсьліў патрэбу малітвы асабліва за тых, што церпяць сяньня жудасны прасьлед дзеля сваіх рэлігійных перакананьняў, або дзе пашыраецца ўсялякамі спосабамі бязбожная прапаганда.

### Тыдзень малітваў за еднасьць Цэркваў

З году ў год у другой палове студня вернікі розных хрысьціянскіх веравызнаньняў моляцца асабліва за еднасьць Цэркваў. Ад часу II-га Ват. Сабору практыка гэта яшчэ больш пашырылася сярод каталікоў. У Вяліка-Брытаніі, дзе блізу вылучна каталікі належаць да лацінскага абраду, у час Тыдня Малітваў за еднасьць Цэркваў сьвятары лацінскага абраду запрашаюць сьвятароў усходняга, каб яны ў іхніх касьцёлах адслужылі сьв. Літургію. І так у студні 1977 г. Біскуп Сіповіч служыў у некалкіх каталіцкіх прыходах, гаварыў казаньні, прычашчаў вернікаў паводле ўсходняга звычаю сьвятымі Дарамі пад двума відамі. У 1978 годзе, 21 студня, Біскуп Ч. Сіповіч у саслужэньні а. Александра Надсана адправілі ўрачыстую Літургію ў каталіцкай катэдры ў Вэстмінстэр. Багаслужба адпраўлялася ў асноўным у ангельскай мове, хаця хор — якім кіраваў а. Плясыд, бэнэдыктынец — сьпяваў некаторыя гімны па грэцку. Багаслужба трывала каля дзьвёх гадзін. Шмат вернікаў прыняло сьв. Прычасьце. Наступнага дня, у нядзелю, адбыліся падобныя Літургіі з малітвамі за еднасьць цэркваў у Марыян Гоўз і ў касьцеле Айцоў Бэнэдыктынцаў Алівэтанцаў, Кокфостэрс. Тут служыў а. А. Надсон. Шмат было вернікаў на Божай Службе і шмат прыступала да сьв. Прычасьця.

25 студня у той самай, ужо ўспомненай Вэстмінстэрскай Катэдры, Кардынал Юры Васіль Гюм прыняў урачыста ў асысьце свайго духавенства др. Коггана, Архіепіскапа Кантэрбэрыйскага.

Трэба верыць і мець надзею, што добрая воля з боку людзей і шчырыя малітвы, давядуць да поўнай еднасьці хрысьціянаў. І тады будзе задаволенай воля Хрыста: »каб усе былі адно« (Ів. 17, 11, 21).

### Публікацыі пра рэлігійнае паложаньне ў БССР

У першым нумары за 1978 год нямецкі каталіцкі месячнік »Der Fels« (Скала), які выходзіць у Рэгэнсбургу, надрукаваў артыкул А. Друйскага пад тытулам: »Religiöses Leben in Weissrussland«. У запраўднасьці гэта ёсьць перавыданьне ангельскай брашуры, якая была надрукаваная ў Чыкага ў 1976 г. з той розьніцай, што рэдактар часапісу немец Г. Фройцгайм папярэдзіў артыкул сваім зьмястоўным уступам і падаў здымкі а. Архімандрыта Фабіяна Абрантовіча і дзеравянай царквы прарока Ільлі ў Віцябску (рыс. Івонкі Сурвіла). Як даведаваемся гэты артыкул выпаў не ў спадобу палякам, бо адзін с польскіх сьвятароў, які дагэтуль быў сталым падпішчыкам »Скалы« атрымаўшы Нр. І хутка ўсе эгзэмпляры яго адаслаў назад у рэдакцыю. Добра, што ў сучаснай Нямеччыне не кіруюць Бацянскія ці Ялбжыкоўскія, бо чаго добрага і рэдактар апынуўся-б у Картузкай Бярозе... Варта дадаць, што артыкул тут успомнены выйшаў таксама аддзельнай адбіткай, але без здымкаў.

Іншай цікавай публікацыяй зьяўляецца артыкул Гэлены Посдзееў у нямецкім часапісе: "Glaube in der 2. Welt" (Nr. 12, Dez. 1977, ст. 168-171) пад тыт.: "Die Zwangsatheisierung der Bevölkerung am Beispiel Weissrussland", (Як праводзіцца прымусовая атэізацыя насельнтьня ёсьць прыкладам Беларусь).

Абодвы артыкулы апіраюцца на матэрыялах зачэрпнутых з савецкіх крыніцаў і абодвы паказываюць якая жахлівая прапаганда бязбожжя вядзецца сяння ў БССР. Да праводжаньня яе ёсьць забавязаныя нятолькі прынагодныя дакладчыкі, але вучні і настаўнікі. Узгадоўвываюцца спэцыяльныя кадры бязбожнікаў, арганізоўвываюцца бязбожныя музэі як у Гродне, Полацку і іншых гарадах. На ўсей тэрыторыі БССР сяньня знаходзіцца толькі 42 каталіцкіх сьвятароў, з якіх некаторыя вельмі хворыя, а блізу ўсе ў паджылым веку. Па сьмерці сьвятара ўрад не дазваляе назначаць на яго месца іншага.

З сумам і жахам трэба сказаць, што Беларусь згарае сяньня ў полымі бязбожжа і толькі ў Богу надзея, які можа выслухаць мольбы адусюль да Яго скіроўваныя і толькі Ён можа скараціць час дасьведчаньняў.

**Айцец Александар Надсон — Мітрафорны Протоерэй**

Рымская Кангрэгацыя Усходніх Цэркваў, якой прэфэктам зьяўляецца Кардынал Філіпп, а сэкратаром Архіепіскап Марыё Брыні, граматай з дня 17 ліпеня 1978 г. узнагародзіла Айца Александра Надсана тытулам Мітрафорнага Протоеря. Ва ўспомненай грамаце пададзена абгрунтаваньне гэтак высокай узнагароды: выказаньне пашаны для Айца Александра і адданасьць у яго служэньні сваім братом беларусам.

Удзяленьне годнасьці даканаў Біскуп Ч. Сіповіч у часе сьв. Літургіі 6 жніўня 1978 г. У залі ў Марыян Гаўз і ў яго садзе адбылося прыняцьце, у часе якога прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў, сябры і прыяцелі Айца Надсона віталі яго з новым дастоінствам. У канцы Айцец протоерэй усім падзякаваў за удзел у гэтай урачыстасьці, якая ў запраўднасьці ёсьць пэўнага роду вонкавай заахвотай у далейшым служэньні Богу і Бацькаўшчыне.

Таго самага дня памёр Папа Павал VI.

**Душпастырства ў Францыі**

Яго даст. Уладыка Чэслаў Сіповіч, Апостальскі Візытатар для беларусаў каталікоў, назначыў а. Аляксандра Надсона рэктарам Беларускага каталіцкага душпастырства ў Францыі на месца св. пам. а. архім. Льва Гарошкі. Кардынал Ф. Марты, Архіепіскап Парыжскі, лістом ад 20 кастрычніка 1977 г. пацвердзіў назначэнне. Айцец Надсон астаецца далей жыць у Лёндане і адведвае Францыю некалькі разоў у год.

У нядзелю 8 студзеня 1978 г., з нагоды Калядных сьвятаў, а. А. Надсон адслужыў для беларусаў у Парыжы Службу Божую, перад якой Монс. М. Дэкамп, генеральны вікары Кард. Марты, афіцыяльна ўвёў яго на становішча рэктара Беларускага душпастырства. У сваей прамове Монс. Дэкамп прывітаў беларусаў і звярнуў увагу на экумэнічную вартасць захавання рознымі этнічнымі трупамі сваіх рэлігійных і нацыянальных традыцыяў. Пасля Багаслужбы, у памешканьні душпастырства, адбылася супольная ялінка.

У нядзелю 17 верасня 1978 г. ў памешканні Беларускага душпастырства ў Парыжы, пасьля Багаслужбы, адбылася зборка, на якой а. А. Надсон падзяліўся з прысутнымі ураjаннямі з Міжнароднага кангрэсу славістаў, які адбыўся ў Загрэбе ў часе ад 3 да 9 верасьня. Ён асабліва падрабязна расказаў аб беларускай тэматыцы на Кангрэсе і аб сустрэчах з беларускімі і іншымі вучонымі, якія займаюцца вывучэннем беларускіх пытаньняў.

У суботу 25 лістапада 1978 г. беларуская грамада ў Ле Крэзо — Моншанэн у цэнтральнай Францыі сьвяткавала ўгодкі Слуцкага паўстаньня. На ўрачыстасці, яка адбывалася ў памешканьні сп. А. Трусава быў прысутны а. А. Надсон, які адслужыў Паніхіду за тых, якія памерлі за Беларусь. На наступны дзень раніцай, у мясцовай парафіяльнай царкве, а. Надсон адслужыў св. Літургію.

**Біскуп Ч. Сіповіч — сябрам Камісіі для Кодэфікацыі Права і сябрам Кангрэгацыі для Ўсходніх Цэркваў**

Ад часу высьвяціна́ў айца Ч. Сіповіча на біскупа (1960 г.) быў яму даручаны Папам Янам XXIII, а пасьля пацьверджаны ягонымі наступнікамі, абавязак духовай апекі над беларусамі каталікамі на выгнаньні. Апрча гэтага з назначэньня Апостальскага Пасаду Біскуп Ч. Сіповіч ёсьць членам Папскай Камісіі для кодэфікацыі кананічнага права для Ўсходніх Цэркваў. Ад 10 красавіка 1978 г. ён з назначэньня Папы Паўла VI, пацьверджанага пазьней Янам Паўлам II, ёсьць таксама сябрам Кангрэгацыі для Ўсходніх Цэркваў. Дагэтуль ён быў толькі яе дарадчыкам. Успомненыя тут назначэньні ня ёсьць пачэснымі, але з кожным з іх ёсьць спалучаныя пэўныя абавязковыя працы.

**Угодкі сужэнстваў**

15 кастрычніка 1978 г. адбылася Багаслужба ў беларускай царкве Хрыста Спаса ў Чыкага. Гэта быў дзень малітваў за спадарства Чарнэцкіх, якія абходзілі 60-ую гадаўшчыну свайго шлюбу. Дакладна: яны яго ўзялі 3 кастрычніка 1918 г.

Перажыць столькі войнаў, выгнаньняў, пабываць у розных кутках сьвету і дачакацца спакайнейшага жыцьця ў адным з прыгарадкаў Чыкага, дзе таксама жывуць іхнія дочкі і зяці, — ня ўсім гэта суджана!

Сям'я Чарнэцкіх ёсьць ведамая са сваіх стойкіх пераканаsuccessfulньняў, са свайго пасьлядоўнага рэлігійнага жыцьця і са свайго шчырага патрыятызму. Усе мы цешымся разам з імі з гэтак рэдкай нагоды — 60-ці гадовага юбілею — і жадаем ім у далейшым Божага багаславенства і шмат радасьці.

Ня менш прыемным было пачуць і пра сярэбраны юбілей сужэнства спадарства Жызьнеўскіх, які яны гучна адсьвяткавалі ў нядзелю 17 сьнежня 1978 г. ў той самай беларускай царкве Хрыста Спаса, а пасьля мелі прыняцьце-банкет у залі.

Нашы найлепшыя пажаданьні для Ганны і Нікадэма Жызьнеўскіх і для ўсей іхняй шматлікай сям'і і сваякоў. Спары Божа ў будучыні!

# АДЫШЛІ НА ВЕКІ



Аж ня верыцца, што за кароткі час пакінула гэты сьвет столькі нашых знаёмых, прыяцеляў, Аб сьвятарах мы падалі крыху шырэй. Нажаль, мы ня можам тут пісаць біяграфіяў іншых, хаця й вельмі блізкіх і дарагіх нам асоб. Таму абмежымся да найважнейшых вестак пераказываючы адначасова спачуваньні сваякам памёршых і паручаючы малітвам душы тых, што адышлі.

### ЧЭСЛАЎ КУКЕЛЬ

Радзіўся ў Прыдруйску 17 студзеня 1915. Памёр у шпіталі каля Бонн 20 красавіка 1977 г. Пакінуў жонку Гертруду і чатырох дачок.

Ч. Кукель вучыўся ў беларускай гімназіі ў Дзьвінску, пасьля ў Беларускай Вучыцельскай Сэмінарыі ў Вільні (1942-43). Выкінуты ваеннымі падзеямі за межы Бацькаўшчыны туляўся па сьвеце (Айхштэд, Рым, Мадрыд, Лёндан, Лювэн) аж пакуль не затрымаўся на сталае ў Бонн, дзе быў бібліятэкарам-загадчыкам пэдагагічнага аддзелу Унівэрсытэцкай Бібліятэкі. Ён быў адным з першых сяброў ЗБВБ і браў дзейны удзел ва ўсіх яго працах і пры выданьні »На Шляху«. Быў сябрам БАКА »Рунь« і прыймаў удзел у розных міжнародных зьездах.

Ч. Кукель на заўсёды астаўся ў памяці тых, хто з ім супрацоўнічаў ці толькі спатыкаўся, як праўдзівы джэнтэльмэн, сымпатычны чалавек, гарачы беларускі патрыёт.

Паховіны адбыліся ў Свісталь-Міль дня 23 красавіка 1977 г. Набажэнства адпраўляў Біскуп Ч. Сіповіч, прысутнічалі беларусы з Мюнхэну і шматлікія сябры і знаёмыя з Нямеччыны і Бэльгіі. Даслоўна гара прыгожых красак пакрывала ягоную магілу. Вечны супакой душы яго!

### АЛЬБЭРТ КАДНЯК (Алесь САЛАВЕЙ)

Нарадзіўся 1 траўня 1922 г. ў вёсцы Крысава Лагойскага раёну. Памёр 22 студзеня 1977 г. ў Мэльбурне. У часе вайны быў дзейным у Рызе і выдаваў там беларускі часапіс. Пасьля праз Аўстрыю трапіў у далёкую Аўстралію. Апрача выданых твораў асобнымі кніжкамі: »Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі«, 1946; »Сіла Гневу«, 1948 — друкаваліся ягоныя вершы у розных зборніках, газэтах і часапісах.

Творы А. Салаўя выдзяляюцца багацьцем беларускай мовы, глыбокай лірыкай і прыгожай формай.

Як само імя паэта сьведчыць ён быў каталіком. Варта аб гэтым помніць, асабліва цяпер, калі ў савецкай Беларусі некаторыя з дзяржаўных »дзеячоў« імкнуцца усіх тамтэйшых каталікоў уважаць за чужы польскі элемэнт. Восьжа не адзін толькі у нас ёсьць Альбэрт Кадняк каталік і беларус! А хто-ж яны ёсьць тыя ў БССР, каторыя быццам палякі, а падалі сваей роднай мовай беларускую?! А такіх ёсьць тысячы!

Няхай нам сьв. п. паэт дарае, што мы пры гэтым сьціплым успаміне парушылі справу рэлігіі і нацыянальнасьці, але, калі не на эміграцыі, дык на Бацькаўшчыне трэба пачынаць ад альфабэту. Польскі ксёндз на Беларусі ніяк не павінен стацца роўназначнікам каталіка беларуса. Ён ёсьць рэшткай даўняй экспансыі.

### Прафэсар ІВАН ЛЮБАЧКА

Памёр на сэрца 20 ліпеня 1977 г. ў Мурай, Кэнтакі ў Злучаных Штатах Амэрыкі. Аўтар ведамай кніжкі ў ангельскай мове: »Беларусь пад савецкай уладай 1917-1957«. Паходзіў з Палаччыны. Памятаў добра як зьдзекваліся над сялянамі заганяючы іх сіламоц у калхазы. Быў жаўнерам савецкай арміі і трапіў у нямецкі палон. Быў вывезены ў Нямеччыну і адтуль у 1959 г. выехаў у Злучаныя Штаты. Дзякуючы сваей саліднасьці і працавітасьці здабыў нятолькі вучоную ступень доктара філязофіі, але быў назначаны прафэсарам Муррайскага Унівэрсытэту. Летам 1975 г. адведаў сваіх знаёмых у Эўропе. Найдаўжэй затрымаўся ў Беларускай Бібліятэцы ў Лёндане. Да кніжкі, асабліва сваей беларускай, цягнула яго магнітам і ён ад таго часу падтрымоўваў цесныя сувязі з Бібліятэкай. Сваей саліднасьцю і ветлівасьцю прафэсар Любачка прыцягаваў да сябе людзей. Вечная памяць!

### УЛАДЗІМІР ШЫМАНЕЦ

Нарадзіўся 15 траўня 1911 г. ў Рызе. Памёр 27 жніўня 1977 г. ў Сартрувіль каля Парыжа. Ягоны бацька паходзіў з Засульля ў Стаўпеччыне. Уладзімір скончыў у Вільні тэхнічную школу (1932), аднак ён стаўся больш ведамым як мастак. Магчыма больш дасканалымі вышлі з пад ягонага пэндзэля аб'екты архітэктанічнага характара, прыкладам стары Менск, касьцёл у Сартрувіль і інш., аднак нямала часу й увагі ён пасьвяціў таксама відам, асобам і зубрам.

Ён сам выбудаваў пад Парыжам для сябе ха-



**Паховіни св. п. Уладзіміра Шыманца, Парыж 31 жніўня 1977**

ту і яна хутка сталася галерыяй абразоў.

Паховіны адбыліся 31 жніўня. Прысутнічала ягоная сям'я, беларусы з Парыжа і з далейшых ваколіцаў Францыі. Пахаронную службу адправіў а. прот. Александар Надсон. Вечная памяць!

## АЎГЕНЬ ТРУСАЎ

Радзіўся 16 сьнежня 1911 ў Фінляндыі, куды выехалі ягоныя бацькі перад першай сусьветнай вайной. У 1920 г. сям'я Трусавых вярнулася на Бацькаўшчыну. Аўгень хадзіў у Віленскую Беларускую Гімназію. У час апошняй вайны быў дзейным у арганізаваньні БКА. У 1944 г. трапіў у Нямеччыну, а ў наступным апынуўся ў Францыі. Працаваў на мэталюргічных заводах ў гарадку Моншана. Памёр 20 студзеня 1979 г. пакінуўшы па сабе памяць добрага бацькі і гарачага беларускага патрыёта. Паховіны адбыліся 23 студзеня. Нажаль, ніхто з беларускіх сьвятароў дзеля дрэннай пагоды ня мог прыняць у іх удзелу. Сям'і Трусавых нашая рэдакцыя складае шчырыя спачуваньні.

Сьвятая Літургія за душу сьв. п. Аўгена была адслужаная айцом протоерэям А. Надсонам у суботу 3-га сакавіка 1979 г. ў Моншана ў прысутнасьці вялікай колькасьці беларускіх і францускіх сяброў і знаёмых. Прынялі ўдзел у ей таксама беларусы з Парыжа.

## МАКСІМ РУДЗЬ

Народжаны 20 сьнежня 1910 г. ў вёсцы Сычавічы каля Радашкавічаў. Хадзіў у беларускую Радашкавіцкую гімназію. У час апошняй вайны быў старшынёй другой роты Школы Камандзераў БКА. Памёр 13 лютага 1979 т. ў горадзе Бэдфард (гадзіну язды цягніком ад Лёндану) і быў пахаваны айцом Янкам Пекарскім на могілках Мортлейк у Лёндане дня 22 лютага. Прамаўляў такжа а. прот. Надсон.

Асталіся на Бацькаўшчыне жонка і дачка. М. Рудзь — настаўнік па прафэсіі на чужыне працаваў у цагельні.

Будучы шчырым патрыётам ён не забываўся і аб беларускай справе. У сваім тэстаманце пакінуў частку сваей маемасьці для Беларускай Бібліятэкі і Музэю ў Лёндане.

Памяць добрага чалавека, шчырага сябры і беларуса астанецца у тых, хто знаў сь. п. Максіма Рудзя. Вечная памяць!

## ТАМАШ СКАПЕЦ

Народжаны ў Лоску 7 лістапада 1895 г. Памёр у Лёндане 13 студзеня 1978 г. Пахаваны Айцом Янкам Пекарскім на могілках Great Northern Cemetery, Brunswick Park Rd., N. 11, Southgate. Калі прышлі Саветы ў Заходнюю

Беларусь у 1939 г., Тамаш Скапец быў арыштаваны і вывезены ў Сібір, скуль выйшаў ледзь жывы разам з польскім войскам у 1942 г. Прайшоў вялікую часьць сьвету перш чым прыехаў у Вялікабрытанію. Быў гэта чалавек гаспадарны, працавіты, ашчадны. Як толькі беларусы пачалі арганізавацца ў Англіі, далучыўся да іх і сколькі мог, дапамагаў. Вечная памяць!

## АРТУР ФЭНЛЁН

Нарадзіўся ў Лёндане 10 чэрвеня 1906 г. Памёр 25 сакавіка 1978 у шпіталі ў Лёндане. Англічанін, які больш за дваццаць гадоў быў шчырым прыяцелям беларусаў. Сьпяваў у хоры у Марыян Гаўз, быў сябрам Англельска-Беларускага Таварыства. Каталік практыкуючы, заўсёды ветлівы і ўслужлівы. Дзень перад сьмерцю адведаў яго Біскуп Сіповіч. Быў вельмі слабы, але думаў, што яшчэ ўстане і зноў прыйдзе ў Марыян Гаўз, як гэта бывала блізу кожнай нядзелі!... Сьветлая постаць Артура Фэнлёна засталася ў памяці ўсіх, хто яго знаў. Цяпер ён мае нагоду пачуць хэрувімскія хоры, як яны сьпяваюць на нябесны расьпеў »Сьвяты, Сьвяты, Сьвяты Госпад . . . «

## ПРАФЭСАР РОБЭРТ ОЦІ (AUTY)

Прафэсар параўнаўчай славянскай філялёгіі ў Оксфардзкім Унівэрсытэце. Радзіўся ў 1915 г. ў Ротэргам у сям'і школьнага настаўніка. Памёр у Оксфардзе 18 жніўня 1978 г. Гэты вучоны быў ведамы дзеля сваіх розных навуковых прац і меў міжнародныя сувязі з вучонымі, асабліва славістымі. Ён быў шчырым прыяцелям беларусаў. Ягоная імя знаходзіцца увекавечненым на мармуровай дасцэ Беларускай Бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лёндане, якую ён урачыста адкрыў 15 траўня 1971 г. Можа аднак найвялікшай ягонай заслугай зьяўляецца тое, што ён былага свайго вучня Арнольда МакМілліна скіраваў на шлях беларусаведы. І пры розных нагодах прафэсар усьміхаўся і паўтараў: »Я мала для вас беларусаў зрабіў, але я пакідаю вам майго вучня . . .« І запраўды вучань апраўдаў надзеі прафэсара. Трэба дадаць, што праф. Оці нятолькі быў ведамым вучоным, але незвычайна ветлівым і мілым чалавекам. Беларусы пра яго не забудуць. Вечная яму памяць!

---

*Нэла ТУЛУПАВА*

### МАЛІТВА

Клякоча Бусьліны наш востраў —
Даніліха ўстала!
Радно валасоў серабрыстых
На плячах, на лапатках вострых . . .
Са слоў няспешных, няхітрых
Пачынае сваю малітву:

— Дзякуй Богу, што сонца ўстала,
Што рака ў берагах і лугі ў стагах.

— Зьгінце ўсе людзкія хваробы,
І пакуты, і войны.

— Няхай дзеткі будуць здаровымі,
— Няхай хлеба будзе даволі . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Сонца ў хаце ўсё болей, болей.

*Цішка ГАРТНЫ*

### ПЕРАД ВОБРАЗАМ ХРЫСТА

Перад вобразам, Спасе, Тваім
З непакрытай стаю галавою
І малюся я сэрцэм, душою
Тваім мукам вялікім, сьвятым.

Вось з малітваю гэтай пабоч
На убіўцаў Тваіх — варагоў,
Многа так выліваецца слоў
Злосьці дзікай і цёмнай, як ноч.

Я пытаю балесна сябе:
»І зачым-же мой Бог ім прашчаў
І глуміцца з сябе дапушчаў,
Уступіўшы Свой меч ў барацьбе?«

*Алег САЛТУК*

*

Хмель з бачонкам абышоўся крута:
Узламаў і з трэскам вынес дно.
Выцекла праз край уся атрута —
Засталося чыстае віно.

*

Бацкоўская мова,
Што слова, то фрэска —
Славянскі даверлівы ўзор.
Жыла, памірала і зноў уваскрэсла
І роўнаю стала між моваў-сясьцёр!



MATKA BOSKA PORAZAŬSKAJA
Matačka Božaja apiakujsia nami!

Абразок Божай Маці Поразаўскай. Арыгінал яго маляваў Пётра Сергіевіч для касьцёла сьв. Міхала ў Поразаве. Тут зьмяшчаем рэпрадукцыю абразка падараванага самым мастаком 4 траўня 1939 г. для Люні Будзьчанкі, а яна передала яго у Беларускі Музэй у Лёндане.

Цікавыя арыгінальныя беларускія тэксты пад малюнкам Маці Божай, магчыма аўтарам іх ёсьць той самы мастак.

Касьцёл у Поразаве быў уфундаваны Янам Ягінтовічам Рымвідам у 1560 г., а ў 1828 г. быў збудаваны мураваны. Перад апошняй вайной поразаўская парахвія налічывала каля 7.000 парахвіянаў.

Поразава сяньня — гарадок пасёлак у Свіслацкім раёне, Гродзенскай вобласьці на рацэ Рось.

# НА КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

*Arnold B. McMillin, Die Literatur der Weißrussen. A History of Byelorussian Literature. From its Origins to the Present Day. 447 pp. 1977. W. Schmitz Verlag in Giessen.*

Пад такім тытулам афсэтным друкам выйшла кніжка ў ангельскай мове. Аўтар ейны, прафэсар Лівэрпульскага ўнівэрсытэту Арнольд МакМільлін — добра ведамы берларускай эміграцыі сваімі іншымі публікацыямі зь беларускае літаратуразнаўства й мовазнаўства.* Таму рэцэнзаваная кніжка — гэта працяг і дасюлешняе завяршэньне ягоных папярэдніх дасьледаваньняў і публікацыяў. Яна выйшла як 6-ты том сэрыйнага выданьня *Bausteine zur Geschichte der Literatur bei den Slawen*, якое ў заходніх мовах выдаецца ў Нямеччыне пад рэд. Ганса-Бэрндта Гардэра й Ганса Ротэ.

Гісторыя беларускае літаратуры А. МакМільліна разглядае *арыгінальную мастацкую* літаратуру, пачынаючы ад XII ст. Старажытная *перакладная* літаратура, як і старое пісьменства *немастацкіх* жанраў (публіцыстыкі, навукі, ня кажучы ўжо пра юрыдычнае пісьменства), тут выпушчаныя. Выключэньнем з гэтага ёсьць хіба Пасланьне Кліма Смаляціча, прадмовы Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага, палемічныя творы XVI-XVII ст. ст. ды рэдкія *прынагодныя* згадкі іншых. Уся гісторыя літаратуры тут унятая ў 19 разьдзелаў (бб. 13-332) з дадаткам бібліяграфіі (бб. 333-364) і паказальнікаў (бб. 365-447).

Пачынаецца яна з *»Духоўнага пісьменства ад XII да XV стагодзьдзяў* (разьдз. 1, бб. 13-23), у якім аўтар затрымліваецца на *жыцьцях сьвятых* (Афрасіньні Полацкае, Абрама Смаленскага) і легендзе пра Мэркура Смаленскага, *гамілетычных жанрах* (словы, павучэньні й малітвы Кірыла Тураўскага, пасланьне Кліма Смаляціча) і на *паломніках* (ігумена Данілы, Ігната Смалянiна, Варсанафа). Тады пераходзіць да *»Летапісаў і мэмуарнае літаратуры«* (разьдз. 2, бб. 24-39), дзе паводля навейшае клясыфікацыі В. Чамярыцкага, аналізуе беларускія летапісы XV-XVI ст. ст. і мэмуарныя творы (Допісы Ф. Кміты, Дзёньнік Т. Еўлашэўскага, Баркулабаўскі летапіс, Дыярыюш А. Філіповіча). Асобны разьдзел (3-ці, бб. 40-47) прысьвечаны *Ф. Скарыне*. У разьдзеле *»Проза ў шаснаццатым і сямнаццатым стагодзьдзях«* (разьдз. 4, бб. 48-59) даецца агляд *прадмоваў* С. Буднага й В. Цяпінскага (прынагодна згадваюцца некаторыя публікацыі Л. Зізанія — ягоныя граматыка, лексіс і тлумачэньне малітвы »Ойча Наш«), *сьвецкага й духоўнага красамоўства* (Л. Сапега, Л. Карповіч, М. Сматрыцкі), з *палемічнае літаратуры* — некаторых твораў Г. Пацея (Вунія, Антырызіс), Х. Філялета (Апакрызіс), С. Зізанія (Казаньне Сьв. Кірылы) і *сатыры* (Прамова Мялешкі, Ліст да Абуховіча). 5-ты разьдзел (бб. 60-68) — *»Паэзія ад Скарыны да Полацкага«*. У ім разглядаюцца сродкі вэрсыфікацыі ранняга беларускага верша й паэзія Ф. Скарыны, Л. Мамоніча, Л. Зізанія, А. Філіповіча, С. Полацкага, а таксама паасобныя вершы невядомых паэтаў (спаміж іх — »Ляменть манахаў Віленскага Траецкага манастыра на сьмерць свайго архімандрыта Л. Карповіча). У разьдзеле 6-ым, *»Васемнаццатае стагодзьдзе«* (бб. 69-76), із нешматлікіх, дагэтуль ведамых твораў гэтага часу ў беларускай мове аўтар спыняе сваю ўвагу на двух празаічных апавяданьнях (прамовах) невядомага пісьменьніка, на колькіх вершах і песьнях, інтэрмэдыях да школьных драмаў, на пераробцы М. Цяцерскім урыўка з мальераўскай камэдыі »Лекар мімаволі« й на »Камэдыі« К. Марашэўскага.

Літаратуры XIX ст. прысьвечана 4 разьдзелы. У разьдзеле 7-ым, *»Адраджэньне беларускае літаратуры«* (бб. 77-89) даецца агульная характарыстыка літаратурнага працэсу да 1870-ых гг., у храналягічным парадку разглядаюцца як паасобныя вершы І. Легатовіча, Ф. Савіча, А. Плуга, У. Сыракомлі, Ф. Пчыцкага, Ф. Блуса, К. Каліноўскага, некаторыя ананімныя тутаркі, паўстанцкія песьні 1863-64 гг., паэмы »Енеіда навыварат« і »Тарас на Парнасе«, гэтак і творчасьць П. Багрыма, Я. Чачота, А. Рыпінскага, Я. Баршчэўскага, В. Каратынскага, А. Вярыгі-Дарэўскага. Асобныя разьдзелы — *»Дунін-Марцінкевіч«* (разьдз. 8, бб. 90-97), *»Багушэвіч«* (разьдз. 9, бб. 98-107) і *»Багушэвічавыя сучасьнікі«* (разьдз. 10, бб. 108-119). У гэтым апошнім, апрача згадак пра малаведамых паэтаў і пісьменьнікаў канца XIX ст., гутарак гэтага часу, даецца кароткі агляд творчасьці Я. Лучыны, А. Гурыновіча, Ф. Тапчэўскага, А. Абуховіча, М. Косіч і А. Ельскага.

Літаратуры нашаніўскае пары прысьвячана 5 разьдзелаў. У вагульным разьдзеле *»Нашаніўская пара«* (разьдз. 11, бб. 120-148) разглядаецца нашаніўская *паэзія* (Цётка, Я. Журба, Г. Леў-

*) Праф. А. МакМільлін — сябра Ангельска-Беларускага Таварыства ў Лёндане, якое, як ведама чытачу, ад 1965 г. выдае друкам навуковы часапіс *The Journal of Byelorussian Studies*, некаторы час рэдагаваны аўтарам кніжкі й дзе ён публікаваў свае працы. Важнейшыя зь іх:
*A Conspectus and Bibliography of Byelorussian Literature in the Nineteenth Century (vol. II, No. 3, 1971, pp. 271-288);*
*Stanza, Rhyme and Metre in Nineteenth-Century Byelorussian Verse. Some Statistical Observations (vol. III, No. 2, 1974, pp. 157-170).*
Зь ягоных мовазнаўчых працаў выдатнейшая:
*The Vocabulary of the Byelorussian Literary Language in the Nineteenth Century. Anglo-Byelorussian Society, London, 1973.*

чык, Ц. Гартны, К. Буйла, А. Паўловіч, А. Гурло й інш.), *проза* (К. Каганец, Власт, Ядвігін Ш., Цётка, С. Палуян, М. Гарэцкі й інш.) і *драматургія* (галоўна — К. Каганец, Я. Купала, Л. Родзевіч, Ф. Аляхновіч). Асобныя разьдзелы — »*Багдановіч*« (разьдз. 12, бб. 149-160), (разьдз. 13-ы, бб. 161-174), »*Купала*« (разьдз. 14-ы, бб. 175-195) і »*Колас*« (разьдз. 15-ы, бб. 196-218).

Апошнія 4 разьдзелы працы — навейшая беларуская літаратура. Гэта разьдз. 16-ы, »*Ад рэвалюцыі да вайны*« (бб. 219-289), у якім даецца характарыстыка літаратурных групаў і арганізацыяў у БССР у 1923-31 гг. (»Маладняк«, »Узвышша«, »Пробліск«, »Беларуская Літаратурна-Мастацкая Камуна«, »Полымя«), робіцца агляд савецкай паэзіі, паэзіі ў Заходняй Беларусі, савецкай прозы й драматургіі. Агляд абапёрты на аналіз творчасьці 49 паэтаў (М. Чарота, П. Труса, У. Дубоўкі, Я. Пушчы, А. Куляшова, У. Жылкі, Н. Арсеньнявай, М. Танка й інш.), 30 празаікаў (М. Гарэцкага, Ц. Гартнага, М. Зарэцкага, М. Лынькова, П. Галавача й інш.) і 17 драматургаў (У. Галубка, Я. Міровіча, В. Вольскага, В. Шашалевіча, М. Грамыкі, К. Крапівы й інш.). Два разьдзелы прысьвечаныя творчасьці *З. Бядулі* (разьдз. 17, бб. 290-303) і *К. Чорнага* (разьдз. 18-ы, бб. 304-314). Заключны, 19-ы разьдзел — »*Паваеннае разьвіцьцё*« (бб. 315-332) — на творчасьці шматлікіх сучасных паэтаў і пісьменьнікаў разглядае беларускую літаратуру пасьля 2-ой сусьветнай вайны.

Як ужо зазначалася на ўступе, у кнізе ёсьць *бібліяграфія*. Такая шырокая тэма працы й малое поле для выкладу яе асабліва патрабуюць грунтоўнае бібліяграфіі, на якую апіраецца сам аўтар і якую ён для большых студыяў прапануе ўвазе чытача. Бібліяграфія тут — патрэбная, важная й сур'ёзная частка дасьледаваньня. Хоць характар ейны *выбарачны* й мо не ўва ўсім удалы, яна даволі багатая. Для зручнейшага карыстаньня ёю аўтар яе *клясыфікаваў*. Пад асобнымі тытуламі ў ёй згрупаваныя гісторыі беларускае літаратуры, розныя бібліяграфічныя даведачнікі, хрэстаматыі, перакладныя выданьні ў заходнія мовы, працы пра сувязь беларускай літаратуры зь літаратурамі іншых народаў, працы, у якіх дасьледуюцца пытаньні мастацкае формы й жанру (асобна для паэзіі, прозы й драмы). Тады бібліяграфія працаў асобна для кожнага разьдзелу кніжкі, а таксама пра творчасьць шэрагу пісьменьнікаў, ня выдзеленых у васобныя разьдзелы.

У кнізе шмат цытатаў із вершаваных і празаічных твораў беларускае літаратуры, узятых із розных перакладаў у ангельскую мову, а найболей з анталёгіі беларускае паэзіі ад 1828 г. да нашых дзён *Like Water, Like Fire* (Лёндан, 1971) В. Рыч.

Кампазыцыя кнігі, падзел яе на разьдзелы й артыкулы, адбор і клясыфікацыя матар'ялу, на нашую думку, лепшыя ад усіх папярэдніх выданьняў гісторыі беларускае літаратуры. Гэта тычыцца й выбару выдатнейшых пісьменьнікаў для асобных разьдзелаў, як і разьмяшчэньня іхнага ў пляне кнігі: Я. Купала й Я. Колас — не ў савецкім пэрыядзе, а нашаніўскім, прычым, пасьля М. Багдановіча й А. Гаруна, якія поўнасьцю сюды належаць, а Я. Купала й Я. Колас — пераважна, працягваючы пісаць і ў наступным, савецкім пэрыядзе; разьдзел пра З. Бядулю, наадварот, у савецкім пэрыядзе, дзеля большай ягонай творчай актыўнасьці ў гэтым пэрыядзе й дзеля напісаных у гэтым часе лепшых сваіх твораў (»Салавей«, »Язэп Крушынскі«, кн. 1).

Наагул праца напісана із салідным веданьнем матар'ялу, на высокім літаратураведным узроўні; пры гэтым цяжка сказаць, якія разьдзелы ў ёй лепшыя, хоць нам выдаецца, што да такіх, бліскучых разьдзелаў яе належаць »Паэзія ад Скарыны да Полацкага»«, »Адраджэньне беларускае літаратуры«, »Нашаніўская пара«, »Багдановіч«, »Гарун«, »Купала«.

Аднак гэта не азначае, што з усім у гэтай выдатнай працы можна згадзіцца. У дэталях яе ёсьць некаторыя спрэчныя месцы, пропускі й недакладнасьці. Падрабязны разгляд іхны ляжыць паза рамамі рэцэнзіі. Таму тут іх можна толькі назваць.

У разглядзе старажытнай беларускай літаратуры, як і ў папярэдніх выданьнях гісторыі беларускае літаратуры, няма разьдзелаў пра арыгінальную беларускую літаратуру XV-XVIII ст. ст. у царкоўных мовах — царкоўнаславянскай і лацінскай. Нам здаецца, што насьпела патрэба ўвесьці ў гісторыю беларускае літаратуры, калі не асобны разьдзел, то прынамся артыкул пра ўжо даволі значную й з сваімі адметнымі рысамі літаратуру эміграцыйную, выясьніўшы ейнае месца ў вагульным працэсе разьвіцьця беларускае літаратуры. Кароткая згадка на 324 бал. колькіх прозьвішчаў (дзе неназваныя нат М. Цэлеш, М. Кавыль, А. Акула й інш.) сёньня ўжо недастатковая.

Немажліва згадзіцца, што Ф. Скарына пераклаў біблію не ў беларускую мову (як гэта ў славянскай філялёгіі ад кан. XVIII ст. і да нашых дзён, разам із такімі аўтарытэтамі, як Я. Карскі, агульнапрынята), а ў царкоўнаславянскую зь некаторымі беларусізмамі ў лексыцы й арфаграфіі (бал. 43) (дзе аўтар далучыўся да пагляду некаторых рэдкіх, галоўна расейскіх філёлягаў — А. Сабалеўскага, А. Фляроўскага, за якімі зь беларускіх філёлягаў пайшлі Я. Воўк-Левановіч і А. Жураўскі); таксама, што прычына заняпаду беларускае літаратуры ў XVIII ст. — палянізацыя Беларусі (бал. 69); із спрэчнай характарыстыкай літаратурных арганізацыяў »Узвышша« й »Полымя« (бб. 220-225) і творчасьці некаторых пісьменьнікаў іхных.

Ёсьць у кнізе колькі дробных недакладнасьцяў: М. Грамыка ніколі не належыў да »Маладняка« (бал. 223), арыштаваны быў не за справу, названую на бал. 242, а па тэй самай справе, што й усе іншыя пісьменьнікі »Полымя« й »Узвышша«; М. Зарэцкі ня быў сябрам »Узвышша« (б. 221). Відаць, тэхнічная памылка — праца В. Ластоўскага »Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі« ў бібліяграфіі зьмешчана пад тытулам »Гісторыі літаратуры« (б. 334).

Бальшыні з гэтых упушчэньняў нельга, бязумоўна, прыпісаць аўтару кнігі. Іх трэба прыпісаць у першую чаргу нам самім, аднесьці на рахунак узроўню нашае літаратуразнаўства, дзе цэлы шэраг важных зьяваў гісторыі беларускае літаратуры ўсё яшчэ недасьледаваны ці маладасьледаваны або што ў некаторых пытаньнях у нас няма агульнапрынятага пагляду. Трэба яшчэ дзівіцца, што пры такіх акалічнасьцях аўтар — не беларус у сваіх дасьледаваньнях змог так глыбака пранікнуць у самы дух беларускага літаратурнага працэсу й то не аднаго якогась пэрыяду, а цэлае гісторыі ад ейных пачаткаў да нашых дзён.

Праца праф. А. МакМільліна — вялікі ўклад у беларускую й славянскую літаратуразнаўства. А будучы напісаная ў ваднэй із заходніх моваў, перад ёю адкрытыя дзьверы ў навуковы сьвет Захаду, дзе яна зможа годна пашыраць аб'ектыўную веду пра Беларусь і ейную літаратуру.

*А. Калубовіч*

*АД РЭДАКЦЫІ*

Рэцэнзія А. Калубовіча кнігі праф. А. МакМілліна, хаця й спозьненая, але ёсьць першай у беларускім друку. Рэцэнзыі або зацемкі пра яе зьявіліся ў наступных англа-моўных часапісах:

1) James Dingley, 'Major Minority', *The Times Literary Suplement*, 16 Dec. 1977, № 3951, p. 1468.

2) Henry Gilford, *The Journal of Byelorussian Studies* Vol. IV, № 1, 1977, pp. 53-55.

3) John Sadoŭski, *Canadian Slavonic Papers*, June 1978, pp. 275-76.

4) *Forum For Modern Studies*, XIV, January 1978, p. 91.

5) Shirin Akiner, *Modern Language Review*, Vol. 73, part 3, July 1978, pp. 719-720.

6) Anthony Adamovich, *The Slavonic and East European Review*, Vol. 56, № 3, July, pp. 435-436.

# РЭЛІГІЙНЫ МАМЭНТ У ТВОРАХ ЦІШКІ ГАРТНОГА

Перадусім уважаем патрэбным адзначыць, што гэта зацемка ня мае за заданьне разгляду ўсіх твораў Ц. Гартнога, а толькі зьвярненьне увагі на тое, чаго здавалася-б зусім немагчыма знайсьці ў іх, а што ў запраўднасьці ёсьць мала ведамым.

Цішка Гартны (Жылуновіч, 1887-1937) пісьменнік і грамадзкі дзеяч. Праз нейкі час узначальваў савецкі ўрад БССР, а ў 1931 г. быў выкінуты з партыі дзеля »нацыяналістычных памылак«. Пакінуў па сабе значную спадчыну як паэт, празаік, публіцыст. Яго ўважаюць за ярага камуніста, якім зрэшты і ён сам сябе лічыў. Варта аднак прыпомніць, што ён, асабліва ў наша-ніўскую пару, хаця і быў бунтарным рэвалюцыянерам, аднак ня быў ён тады бязбожнікам.

Тут мы друкуем ведамы верш Цішкі Гартнога »Перад вобразам Хрыста«, які заслугоўвывае, каб памясьціць яго ў анталогію беларускай рэлігійнай паэзіі. Верш гэты друкаваўся ў »Маладая Беларусь«, сш. 2, Пецярбург 1912, с. 111.

Апрача таго рэлігійны элемэнт знаходзіцца і ў іншых творах Гартнога таго часу. У вершы »Слова і Жыцьцё« чытаем:

»Бо жыцьцё, колькі маеш яго,
Нам даецца адзін толькі раз,
І даецца яно ля таго,
Каб яго ты скарысьціў якраз.

І пад словы я гэты людзей
Рад-бы поўна і буйна пажыць,
Жыць здаволенным ўсім, што ідзе,
*Ў Бога шчасьця бязмерна маліць.*«

У іншым творы: »Уцёкі Капыльскага князя Сымона« паэт выказаў патрэбу малітвы. У вялікім горы, калі набліжалася навала татараў, князь

»Вось падняўся ён на ногі
І пасьпешна захадзіў.
Абярнуўся ўраз да Бога,
Ціха пацер згаварыў
І пачаў сям'ю будзіць . . . «

Калі аднак той самы князь пападае ў роспач, пачынае спрэчку з Богам і зьвяртаецца да Яго ў дакорлівым тоне:

»Божа, Божа моцны мой,
Што зрабіў Ты з старанной
І з народам маім мілым?
Ты зраўніў мой край з магілай,
Кроўю вымазаў пуці!«

І як звычайна бывае, калі вялікае гора прыцісьне, чалавек »паспрачаўшыся« з Богам, шукае адказу ў сваей душы, у сваіх маральных паступках. Так рабіў і Капыльскі князь, які ў далейшым пытае:

»Што зрабіў ў сваём жыцьці
Я трахоўнае, ліхое,
Што Ты горэ мне такое
Сваім гневам ніспаслаў?
І князь горка прасьлязіўся . . . «

*А. Д-ка*



**Удумлівая моладзь**

## ЗЬМЕСТ



*Printed by the Ukrainian Publishers Limited 200 Liverpool Rd., London, N1 1LF.*